# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 5 (1760) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 4 ЛЮТАГА 1990 г. ЦАНА 600 зл.




ФОТА ЛЁНІКА ТАРАСЭВІЧА.




Творчасць пісьменнікаў „Белавежы“ з’яўляецца неад’емнай часткай беларускай літаратуры і разам з тым мае сваю рэгіянальную адметнасць, якая вызначаецца, апрача ўсяго іншага, грамадскімі і этнаграфічнымі асаблівасцямі жыцця Беласточчыны, прыкметным уздзеяннем польскай літаратуры. Не выпадкова тут найбольш развіваецца паэзія, проза ж застаецца паэтычнаю. Бо паэтычнае выказванне больш непасрэдна лучыць аўтара з чытачом, спрыяе прамому выхаду літаратуры ў жыццё. Беларускай літаратуры даводзіцца тут настойліва шукаць, нават фарміраваць, выхоўваць свайго чытача, у значнай меры растворанага ў польскамоўным асяроддзі. Таму асабова-дыдактычны, агітацыйна-асветніцкі напрамак у творах тут вельмі адчувальны. І працягам яго з’яўляецца эстэтыка і публіцыстыка мясцовых пісьменнікаў, якая займае ў іх творчасці немалое месца. Адметнасць беларускай літаратуры гэтага рэгіёну праяўляецца і ў засваенні ёю некаторых форматворчых, стылёвых асаблівасцей суседняй, польскай літаратуры. У выніку творы „белавежцаў“ вызначаюцца досыць моцнай рацыянальна-канструктыўнай уласцівасцю, прыхільнасцю да свабодных структур, да ўмоўна-асацыятыўнай вобразнасці, да сілабічнай метрыкі верша. Пры гэтым творчасць „белавежцаў“ застаецца моцнай сваёй беларускасцю, якая выяўляецца не толькі ў слове, а і ў духу твораў, іх ідэйных канцэпцыях, народных маральных асновах.

З’ява сённяшняй беларускай літаратуры — паэзія Надзеі Артымовіч. Гэта паэзія найперш думкі, аналізу. Мастацкі свет Н. Артымовіч дысгарманічны, хаатычны, нават катастрафічны. Жыццё ў яе ўспрыманні няўстойлівае, безабароннае ў сваёй крохкасці і лёгка паддаецца знішчэнню, смерці. Паэтэса абвострана адчувае страты, разбурэнні і стараецца пазнаць загадкавую мяжу, што раздзяляе зло і дабро. Радкі яе, раскіданыя, парваныя шматкроп’ямі, трымцяць жалем і болем, поўняцца чаканнем. Ноч, маўчанне, цені, воблакі, сны — вобразы-дамінанты, што раскрываюць прывідны і далікатны стан яе душы. („Вышапчы, слова, як найхутчэй песні ціхія-ціхія“). І „Сіняя гара“ яе — суровы і грозны знак бяды, але і знак спадзявання. Драматычны разлом светаадчування паэтэсы відаць і ў тым, што пэўная грань яе асобы скіравана да рэчыўнага і бытавога ў жыцці, да такога, як хлеб, коні, дождж, парог, маці. Гэта ў Н. Артымовіч таксама вобразатворчы рад, які выводзіць не толькі да будзённага, а і да вялікага і вечнага. Арытмічныя радкі паэтэсы вельмі спавядальныя, верлібры досыць пявучыя, асабліва ў кнізе „Роздумы“ (1981). Моцная ў яе паэзіі прага дабра і вышыні, як, напрыклад, у вершы пра „дом“, які „трэба лячыць“.

Трэба чыстай рукой
ратаваць і вокны і вочы
прашаптаць забытую малітву
    на хлеб
    на соль
    на вас усіх
    якіх ужо няма.

Вядома, найлепш перадаць свае ўяўленні пра свет Н. Артымовіч можа мадэрнісцкім спосабам: яе паэтычныя асацыяцыі занадта ўмоўныя, алагічныя, каб маглі выявіцца сродкамі рэалістычнай вобразнасці. Бліжэй ёй па духу творчасці ў сучаснай нашай паэзіі, напэўна, Алесь Разанаў.

На белавежскай ніве пэўным чынам пераклікаецца з ёю Ян Чыквін, у якога моцны, рацыянальны, інтэлектуальны склад светаўспрымання. Праўда, Чыквіна-паэта тут рашуча падштурхоўвае Чыквін-навуковец. Апошні добра ведае цану форме, ведае неабходнасць распрацоўкі інтэлектуальных пластоў жыцця ў нашай паэзіі. Калісь гэтыя аргументы былі вельмі важнымі для Максіма Багдановіча, які даў выдатныя ўзоры кніжнага беларускага верша, паказаў

(Працяг на стар. 7)

## ЦІ ЎСЁ ЎЖО ЗАКОНЧЫЛАСЯ?

**(Яшчэ крыху пра канфлікт у Гайнаўскім доме культуры)**

„Пратэст у Гайнаўцы — закончаны“, — аб’явіла 8 снежня 1989 г. „Газета Всpулчэсная“. Да 20 снежня начальнік горада Гайнаўкі мае падаць кандыдатуру намесніка дырэктара ГДК. Калі не знойдзецца адпаведная асоба „звонку“, тады намеснікам стане працаўніца ГДК Эва Коркус. Згодна з воляй большасці мерытарычных працаўнікоў, як паведамляецца ў газеце. Пра тое, што думае сапраўдная большасць працаўнікоў у ГДК, у газеце нічога не напісана. Бо гэта, як аказваецца, не мае ніякага значэння. Забастовачны камітэт падпісаў з начальнікам горада задавальняючае абодва бакі паразуменне, паведамляе „Газета Всpулчэсная“. Значыць, задаволеныя такім вырашэннем з’яўляюцца начальнік горада Я. Рудзінская-Патэюк і тыя некалькі асоб, што ўзнялі пратэст, апошняй праявою якога была акупацыйная забастоўка. Хто бастуе, той мае — гэтая праўда яшчэ раз перамагла ў змаганні з дэмакратыяй і законам.

20 снежня на сходзе працаўнікоў ГДК Я. Рудзінская-Патэюк паведаміла, што намеснікам дырэктара назначае Эву Коркус.

Наступнага дня 13 працаўнікоў Дома культуры падпісалі пратэст супроць гэтага рашэння, скіраваны да старшыні Гарадской рады нарадовай у Гайнаўцы. У пратэсце гаворыцца, што такое рашэнне з’яўляецца дзеяннем незаконным, паколькі яно супярэчыць папярэдняму распараджэнню начальніка горада з дня 5 снежня 1989 года і супярэчыць таксама статуту ГДК, зацверджанаму Гарадской радай. У пратэсце гаворыцца таксама, што прызначэнне Эвы Коркус намеснікам дырэктара было вымушанае забастоўкаю і з’яўляецца нязгодным з воляю большасці працаўнікоў ГДК, якія ў тайным галасаванні выказваліся супроць гэтай кандыдатуры. У ацэнцы тых, што падпісалі пратэст, Эва Коркус з’яўляецца асобаю, якая не арыентуецца ў спецыфіцы гайнаўскага асяроддзя, канфліктнаю і сварліваю. Увесь гэты канфлікт быў выкліканы яе незаспакоенай амбіцыяй. Са свайго боку пратэстуючыя дамагаюцца, каб намеснікам дырэктара была асоба з па-за ГДК. Дзеянні, якія праводзіліся дагэтуль, не маюць нічога супольнага з дэмакратыяй.

21 снежня старшыня Гарад-

(Працяг на стар. 5)

## НА МЯЖЫ

# ЦЯЖКІ ВЫБАР

Нядаўна правёў я размову з двума маладымі людзьмі, якія намерваюцца пакінуць не толькі Беласточчыну, але і краіну, і выехаць на Захад на ўсё жыццё. У сувязі з тым, што гэта добрыя хлопцы з моцнай нацыянальнай беларускай свядомасцю, я пачаў іх пераконваць аб патрэбе застацца на месцы і будаваць сваю будучыню ў нашай краіне. Тады маладыя хлопцы паставілі мне пытанне: калі я атрымаў кватэру і купіў машыну? Я адказаў, што кватэру атрымаў на сорак пятым годзе жыцця, а машыну купіў на сорак сёмым.

Маладыя людзі прызналі, што гэтыя дзве, як жа нармальныя на сучасным стане цывілізацыі справы я вырашыў у сваім жыцці вельмі позна і што іх такі варыянт ні ў якім выпадку не задавальняе. Задумаўшыся і нешта палічыўшы ў памяці, адзін з размоўцаў сказаў: „Сапраўды, элементарныя атуты і выгады ў жыцці вы атрымалі досыць позна. Ад моманту заканчэння універсітэта, маючы тады дваццаць пяць гадоў, чакалі вы дваццаць гадоў на кватэру і дваццаць тры гады на машыну. Уся бяда ў тым, што сёння нашы перспектывы горшыя, чым вашы трыццаць гадоў таму назад. Калі мы скончым вышэйшыя ўстановы, будзем мець прыблізна па дваццаць пяць гадоў і нам ніхто не дасць кватэр на працягу бліжэйшых трыццаці гадоў. Стан жыллёвага будаўніцтва ў нашай краіне сведчыць адназначна аб тым, што ніхто з нас не атрымае кватэру хутчэй, чым праз сорак гадоў. Азначае гэта, што, увайшоўшы ў свой дом, будзем мець па шэсцьдзесят пяць гадоў. Аб машыне не варта наогул гаварыць. Беручы пад увагу заробкі маладых настаўнікаў, маладых інжынераў, ці маладых лекараў, вядома, што вымушаны б яны былі адкладаць на машыну прынамсі пяцьдзесят гадоў. Скажыце, як у такой сітуацыі мы можам залажыць сям'ю, дзе жыць, ажаніўшыся, колькі плаціць за наняты пакойчык? А ці ёсць упэўненасць, што наогул атрымаем работу? Ці ж у такой сітуацыі не павінны мы, нягледзячы на ўсю прывязанасць да роднай зямлі, ехаць у свет і там шукаць шчасця?“

Цяжкасць маёй сітуацыі праявілася ў тым, што я не патрапіў адказаць нават на адно з пастаўленых пытанняў. Праўда, маё жыццё на працягу дзесяткаў гадоў было вельмі цяжкое і я сёння гэтымі цяжкасцямі ў нейкай ступені нават ганаруся. Зрэшты, здаецца мне, што, дзякуючы пражытай уласнай бядзе, я сёння разумею ўсіх тых людзей, якія трапляюць у бяду. Але ж я не маю права гаварыць маладым людзям аб тым, што яны, як я, або яшчэ горш, чым я, павінны пражыць сваю маладосць. Не магу гэтага рабіць і таму, што маё ўбоства было „лагічным“, бо вырастала з міжваеннай бяды, з руін вайны і акупацыі. Маладое пакаленне не абцяжарана такімі рэаліямі. Яно ж нарадзілася дваццаць гадоў таму назад, калі ў нашай краіне ўжо дваццаць пяць гадоў ішло мірнае будаўніцтва, і таму ў ніякім выпадку не можам прыкладаць старых мерак і старых крытэрыяў да маладога пакалення.

У размове з маладымі людзьмі я гэтага не рабіў. Звяртаўся толькі да іх патрыятызму. Гаварыў, што быць можа ў нашай краіне ўсё зменіцца на лепшае, і іх перспектывы не будуць такія безнадзейныя, як гэта здаецца сёння. Не пераканаў я аднак сваіх размоўцаў, бо ці ж можна пераканаць, абапіраючыся на „быць можа“. І так маладыя людзі будуць шукаць магчымасці выехаць на Захад. І зноў наша беларуская грамада паменшыцца. І тыя людзі, якія прадаўжалі б тое, што мы робім у галіне нацыянальнай самаабароны і якія дзейнічалі б разумней і эфектней, чым мы, апынуцца далёка па-за межамі Беласточчыны. Зразумела, жадаю ім шчасця і здзяйснення ўсіх планаў, але як жа прыкра, што ўсё гэта будзе адбывацца далёка ад Радзімы. Калі чагосьці яшчэ можна жадаць у такім стане, дык перш за ўсё таго, каб яны, жывучы на чужыне, не згубілі ніколі беларускай свядомасці.

**Алесь Барскі**




### ДЗЕЛЯ ГІСТАРЫЧНАЙ ПРАЎДЫ

У „Газеце Выборчай“ (нумар 11(178) ад 13—14 студзеня г.г.) з'явіўся даволі вялікі артыкул Стэфана Браткоўскага пад загалоўкам „З чым на ўсход“. Аўтар публікацыі ўзнімае па сутнасці не новую праблему інтэнсіфікацыі ў акрэсленых колах, групоўках ці партыях хвалі нацыяналізму і шавінізму ў адносінах да ўкраінцаў, беларусаў і літоўцаў, а таксама да іх суверэнных дзяржаваў у рамках СССР: Украінскай, Беларускай і Літоўскай ССР. Што пытанне гэтае не новае, сведчыць і вострая рэакцыя ў мінулым годзе чэшскага тыднёвіка „Трыбуна“, які ў артыкуле „Нацыяналісты скажаюць гісторыю“, так між іншым пісаў: „Польская рэакцыя гаворыць пра новы падзел Польшчы (у 1939 г.). Ці сапраўды тэрыторыя, на якую ўвайшла Чырвоная Армія незадоўга да разгрому Польшчы, была польскай? Ці Польшча не захапіла яе грабежніцка ў 1920 г. у імперыялістычнай вайне супроць маладому Савецкаму Саюзу? Ці новая граніца не была згоднай з „лініяй Керзана“? Ці СССР павінен быў аддаць гэтыя землі Гітлеру, ці зрабіць так, як зрабіў, што зразумеў і станоўча ацаніў Чэрчыль?“.

Такая традыцыйная абарона нас з боку чэшскага ды славацкага грамадзянства з'яўляецца зразумелай, бо і культурныя сувязі паміж намі сягаюць сівой мінуўшчыны. У Празе спачываюць астанкі Францішка Скарыны і Міхася Забэйды-Суміцкага. Тут у міжваенны перыяд, дзякуючы дапамозе чэшскага ўрада, вучыліся сотні беларускіх студэнтаў, выдавалі свае перыядычныя выданні. Прага стала своеасаблівай кузняй інтэлігенцыі Заходняй Беларусі, побач з Літвой і Латвіяй, адным з культурных і палітычных цэнтраў беларускай эміграцыі. Чэшская ды славацкая інтэлігенцыя поплеч з французскай была адной з першых, якая выступіла з вострым пратэстам супраць дэлегалізацыі Беларускай сялянска-рабочай грамады, у выніку бяспраўнай санацыйнай дыктатуры Ю. Пілсудскага.

Не буду пераказваць змест усёй публікацыі С. Браткоўскага, які прызывае палякаў, каб спыніць імкненні, мэтай якіх з'яўляецца вяртанне „бяспраўна адабраных“ літоўцамі, беларусамі і ўкраінцамі „польскіх зямель“ ад Коўна, Дзвінска і Полацка па Камянец-Падольскі і Чарняўцы, ад Мінска, Слуцка, Жытоміра і Хмяльніцкага па Гродна, Брэст, Самбар і Турку, вядома, з „дзвюма жамчужынамі польскай кароны“ — Вільняй і Львовам!

Безумоўна, даказваць таго перад некаторымі коламі польскай грамадскасці, што мы не вярблюды ці негры, мы тут не будзем. На тое не дазваляе ні пачуццё нацыянальнай годнасці, ні гонар! Хачу, аднак, звярнуць увагу на адзін аспект справы, пра якую піша С. Браткоўскі, менавіта тое, што быццам бы літоўцы беспадстаўна абвінавачваюць герояў з Арміі Краёвай на „польскіх крэсах“, што яны падчас II сусветнай вайны забівалі літоўцаў. Хачу тут ад сябе дадаць: не толькі літоўцаў, але і беларусаў, і ўкраінцаў. Каб не быць галаслоўным прывяду факты якраз з польскіх крыніц. Маю тут на ўвазе перш за ўсё вядомую кніжку Юзэфа Мацкевіча „Nie trzeba głośno mówić“, выдадзеную зусім не камуністычным выдавецтвам, а Літаратурным інстытутам у Парыжы ў 1969 г. На 270 старонцы гэтай кніжкі чытаем:

„W Stołpcach na podstawie donosu ze strony polskiej, Niemcy aresztowali 19 Białorusinów, a m.in. J. Sobolewskiego, b. posła na sejm W. Czabarytewicza i in. — W Wołożynie ofiarą polskiego donosu padł inż. K. Kasiak, jego zastępca A. Siwiec i in. Razem 22 osoby. — Polska partyzantka napadła w r. 1942 na Żodziszki. Wymordowała nie tylko Niemców, ale i cały białoruski aktyw. Przy tym napad przygotowany był przez Polaków służących w białoruskiej policji. Oni też najbardziej Białorusinów mordowali. — Ogromne straty ponieśli, wskutek polskich prowokacji, Białorusini Mira i okolic. Cała obsługa niemieckiej komendantury w Mirze, i wszyscy tłumacze składali się z miejscowych Polaków, przeważnie z b. administracji dworów. Złożyli oni Niemcom spisy Białorusinów pociągniętych kiedyś do sądów, jako „karanych za komunizm”. Niemcy rozstrzeliwali tych Białorusinów bez sądu. — Wieś Iża, powiatu Wilejskiego, napadnięta została przez polskich partyzantów z Budsławia. Wymordowano w niej szereg działaczy białoruskich. — Oddział polskiej partyzantki zjawił się w roku 1942 w parafii Turejsk, Szczuczyńskiego powiatu, i zakatował w straszliwy sposób proboszcza prawosławnego Iwana Olechnowicza, razem z jego żoną, za działalność narodowo-białoruską. Polacy odcięli im uszy, nosy, wykłuli oczy, żonie popa obcięli piersi, polali benzyną rany i zapalili, przyglądając się jak umierali w mękach”.

„Henryk przerzucał dalej pobieżnie:

„Duchowny Konstanty Majewski, członek BNS... W Trabach, oszmiańskiego powiatu, duchowny prawosławny Anatol Kiryk... Protojerej Michał Lewczyn w Krewie... Córka jego, Larysa, nauczycielka białoruskiej szkoły początkowej w Krewie... zamordowany, zamordowany, zamordowany... — Jeromonach Łukasz z klasztoru Żyrowickiego, który w roku 1941 przywrócił cerkiew odebraną na kościół katolicki w r. 1920, został napadnięty przez polską partyzantkę i zakopany żywcem do ziemi aż po głowę: wokół wystającej z ziemi głowy Łukasza Polacy rozłożyli ognisko i palili ja na wolnym ogniu...”

Ніколі б не працытаваў гэтых слоў польскага, дарэчы, аўтара, калі б не мучыла мяне пачуццё маральнай адказнасці кожнага сумленнага чалавека перад алтаром гістарычнай п р а ў д ы! Даволі міфаў, фальшу і хлусні!

**Іван Кадлубоўскі**

### АБ „АДКРЫТАЙ СТУДЫІ“

### ДАРАГІЯ СЯБРЫ, DRODZY BIAŁORUSCY PRZYJACIELE.

Z oburzeniem i wstrętem obejrzałem sporą część sławetnego „Studia otwartego” na temat mniejszości narodowych. Okazuje się, że na śmietniku historii doskonale przetrwały niedobitki czarnej kołtunerii i śmierdzącego nacjonalizmu, które ośmielają się teraz bezczelnie uważać za gospodarzy kraju i przedstawicieli narodu. Niewiele brakowało, by padły słowa o „czystej polskiej rasie”, w każdym razie w wystąpieniach tych panów co chwila pobrzmiewały hitlerowskie nutki, dobrze nam znane z przeszłości.

Najbardziej dotknęły mnie ataki na Białorusinów. Nie mówiąc już o tym, że są pełnoprawnymi gospodarzami tej ziemi, na której znaleźli się przed Polakami, każdy kto zabierze głos w tej sprawie (w imieniu Polski) powinien zacząć od przeproszenia naszych białoruskich braci za liczne krzywdy, zniewagi, szykany, prześladowania i wynarodawianie, których władze polskie nie szczędziły Białorusinom w XX wieku. Rachunku krzywd nie dałoby się spisać i na wołowej skórze. Dla przykładu przypomnę chociażby tylko likwidację Hromady i rozbicie Towarzystwa Szkoły Białoruskiej.

Tak się składa, że znaczną część okupacji spędziłem w ubogiej białoruskiej rodzinie Malców pod Lidą, która mnie, Polaka, przygarnęła jak swojego i dzieliła się ze mną wszystkim, co miała. Nigdy nie doświadczyłem z ich strony (ani ze strony innych mieszkańców wsi) najmniejszego odruchu niechęci do mnie jako Polaka. Ci dobrzy i łagodni (może za łagodni) ludzie nie próbowali się nawet „odegrać” na byłych przedstawicielach polskiej administracji, która nieraz dobrze im zalała sadła za skórę. Do końca życia nie zapomnę białoruskiej dobroci i smaku białoruskiego chleba.

(Працяг на стар. 7)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 366


Сакрат Яновіч

## ЛЁДЗЯ-„АМЭРЫКАНКА"

Стась вярнуўся з Амерыкі і Лёдзю выперлі замуж за яго. Стала яна ў крамку, якую адкупіў ёй у Хаіма, ездзячы за гешэфтамі. Пры саветах, калі ўпала Польшча, мала не павезлі іх на белых мядзведзяў за гэтае багацце. Каб не былі прыйшлі немцы. У акупацыю Лёдзя са Стасем спекулявалі па вёсках яўрэйскім дабром, што за бесцань аддавалі ім украінцы з жандармерыі. Паратаваліся, аднак, агародам і сваім полем каля Бяздоніцы, дзе радзіла бульба, а і гарох. Калі ж прапаў Гітлер і настала трохі свабоды, Лёдзін „амэрыканец" акрыяў, бы гусак пасля дажджу. Хапіўшы свежага капіталу, ён не быў дурань чакаць новай пятлі. Шмыгануў назад, павёзшы і Лёдзю на той край свету. Справіўшы добрае вяселле (не ўдалося ім дзіця) гарбатай дачцэ, да якой тут пасватаўся падкі на грошы, але не жулікаваты басотнік.

Стась набраўся здольнасці ў сваім бізнэсе і закасаваў канкурэнцыю. Тады заканапаціл яго (у нечым не паладзіў з чыкагаўскай мафіяй). Фірму пераняла Лёдзя, разумна не прымаючы ў памочнікі аніякага каханка. Кіравала па-бабску мякка, без задзіўлівых даходаў (два рэстараніі і матэль).

У Каляду семдзесят шостага прыляцела з Нью-Йорка ў Варшаву; жаніўся з унучкаю сын яе колішняга кавалера. Маладыя з'явіўся па Лёдзю — на акзнцкае лётнішча — і, каб паказацца перад залатою цёшчай, так ціснуў газ у падораным „ролс-ройсе", што на галалёдзіцы пад Беластокам разбіў аўта, забіў сябе і Лёдзю (поўныя валізкі пакралі мужыкі).

Спадчына пайшла ў рукі тае гарбунні. Аўдавеўшы нават раней за матку, яна цяпер пашукала сабе спраўнейшага мужчыну. Але той закруціў галаву абняшчаслівелай маладусе і, падчысціўшы долары старой, кудысьці з'ехаў з яе дзеўкай. Каб прышчаміць людскія языкі, казала, што выправіла яго з ёю вярнуць бацькаў маёнтак у Амерыцы...

## АДЛЁТ БУСЛОЎ

З вясною буслы прыляцелі, як анёлы белакрылыя. У нябессі перадвелікодным кружылі, а мы стаялі на падворышчы ды глядзелі на іх. — Будзе ў цябе брацік, — пажартавала з мяне маці. — Поле ўродзіць, — сказаў бацька, не апускаючы галавы. А мне хацелася на луг, папырскацца ў цёплых лужынах.

На буслянку яны сваю вярнуліся, з краінаў егіпецкіх. Шлях да дома роднага адшукалі. аднак, не забыліся. Як у. напамін чалавеку: без айчыны можаш толькі наесціся.

Аралі і сеялі людзі, жытка жалі і хлеб новы пяклі. Богу маліліся, песні на вячорках спявалі, жанілі ды хрысцілі, хадзілі — таксама — на мярліны, праводзячы сваіх на вечны супакой. І хоць пачалі пакідаць вёску, прамяняўшы яе на горад, смерць усё роўна не адступалася ад іх, як і звычайная бяда. Гэтак жа аніхто і ніколі не ўбачыў мёртвага бусла, кажучы што памірае ён у палёце над сінім морам. ад разрыву сэрца з тугі... Ажно адзін застаўся на зіму ў нашым старонні. прыбіты кімсьці цяжкагрэшным. Шкадуючы яго, баючыся паратаваць святога птаха, бо, можа, знак гэта гасподні канца свету. Час ужо, каб надыйшоў разам са згіненнем апошняга гаспадара, што глуха кашляе ў гібеючай хаце.

Алесь Барскі

* * *

*Як распляскацца мне,*
*Разліцца з берагоў*
*І вырвацца з абдымкаў*
*Клешчаў жорсткіх,*
*Якімі злы настрой*
*Маю няволіць кроў,*
*І думкі блытае мне жорстка.*
*Стаю я над ракой,*
*Стаю сярод далін,*
*Заснулі дрэвы,*
*Дрэмлюць словы,*
*Скажы мне, сэрца, урэшце:*
*Як, калі*
*Узарвешся гімнам каляровым.*

* * *

*Мая маці не піла каньяку,*
*І ніколі не ела ікры.*
*Ні разу не ехала ліфтам,*
*Ніколі не была ў Акадэміі навук,*
*Не бачыла ювелірнай вітрыны.*
*Не прачытала ніводнай кнігі,*
*Не ведала, хто гэта Капернік,*
*Але для мяне адкрыла сонца.*

* * *

*Адкуль тваё цяпло,*
*Палетак родны?*
*Якім пяшчотна грэеш*
*Мне ступені,*
*Я вечна тваім смакам*
*Прагны і галодны,*
*Ірдзею ў наваколлі*
*Тваім ценем.*
*О, колькі ж раз*
*Чужыя абяцалі,*
*Дарылі непаўторнасць,*
*Неўміручасць,*
*Але ў люстэрку*
*Нарвы хваляў*
*Я ўбачыў іхні зман*
*Фальшывы і балючы.*
*Ды толькі тут*
*Тваіх паўтораў непаўторнасць,*
*Ліе сэнс добры*
*Ў мае думкі і надзеі,*
*І сэрца дабрыню*
*Пад свае крылы горне,*
*Ператварае будзень*
*У нядзелю.*

* * *

*Маю чатыры твары,*
*Як азіяцкі ідал,*
*Усміхаюся ўсім адначасна*
*О, колькі ж я бачыў*
*Здарэнняў і відаў,*
*Чужых і ўласных!*
*А калі людзі*
*Да дому адыдуць,*
*І болей маніць не трэба,*
*Я проста дзіця, а не ідал,*
*З тварам адным,*
*Як бохан хлеба.*



*...Стаю я над ракой, стаю сярод далін, заснулі дрэвы...* *Фота Я. Целушэцкага.*

## НЕЧАКАНЫ ЎСПАМІН

У пераднавагоднюю віхуру, у гэты белы канец свету, у маю памяць з'явіўся з забытай далечыні захад летняга дня з бліскамі ад нямецкага самалёта на пацішэлым небе. Вайна пайшла пад Маскву, і самалёт задаволена гудзеў чмялём з хмаркі на хмарку. Я нарваў вераб'інага шчаўя і трухаў дахаты. халоднымі ад расы ступнямі трапляючы ў цёплы пыл каляінаў.

Лётчыкам быць хацелася з той панылаcцю, з якою зайздросцяць герою файнай кніжкі. Я кінуў марыць пра каралеву каб упаткаць яе сірацінаю на дарожцы пад Казловым лугам. Ды й хто яе бачыў? А аэраплан. во, сам буіць! Сесці ў яго — таксама свята не меншае. Немец нядобры, хто-хто. а ён не пусціць. Саветы вернуцца, дык тады і папрашуся. А да тае пары татку авечак папасу, мамцы курак дапільную. бабулі новай бульбы ўкапаю на палудзень... Трэба ж будзе і ў школу пахадзіць. калі ўсе дзеці пойдуць; і вырасці.

## КРАІНКА НУВАРЫШАЎ

У беларускім мястэчку на ўскраіне Польшчы начамі выюць сабакі. Не бывае ў ім такой пары. каб хто не павесіўся. Тыя. што вар'яцеюць. падпальваюць стадолы. і ссылаюць іх у шпіталь. Хлопцы ж забіваюцца на матацыклах ды танных аўтах Няма як сказаць. чаму. Калісьці зводзілі сябе са свету многадзетныя басотнікі і банкруты з фабрыкантаў.

Бабы трымаюцца. Іх шчасце што яны менш разумеюць.

На гэтым ускраі жывуць, здавалася б. як і ўсюды: не з Богам, а з грашыма. Нават цудоўна (раўняючы з паншчынным векам). Чамусьці, аднак жа. бязрадасна.

Гэтак таму. што захутка ўсенька далося. і бяда выпусціць з рук. А трэба ж яшчэ далей і далей...

„Ніва"
4.II.1990 г

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У КЕЛЬЦАХ

IV кніжны аўкцыён у Кельцах падрыхтоўваюць на 21—22 лютага г.г. Адбудзецца ён у Доме творчых асяроддзяў, што на вул. Замковай № 5. Некаторыя кніжкі павінны зацікавіць нашых бібліяфілаў. Вось іх пералік:

Poz. 269 — Drużycki J., Wybrane herby dawnych ziem, kapituł i miast Rzeczypospolitej Obojga Narodów Polski i Litwy, Wrocław 1987. Cena wywoławcza 60 tys. zł.

Poz. 270 — Kamieński A., Szkice z puszczy Białowieskiej, Warszawa 1912. C.w. 50 tys. zł.

Poz. 290 — Typy ludowe: Typy z Polesia (kolorowe reprodukcje obrazów W. Boratyńskiego przedstawiające kobietę i mężczyznę w strojach ludowych), Kraków b.r.w. C.w. 2,5 tys. zł.

Poz. 302 — Białowieska puszcza (mapka), ok. 1910—1914, 25x34 cm. C.w. 400 zł.

Poz. 705 — Dąbkowski P., Dobra rodowe w prawie litewskim od XIV do XVI wieku, Lwów 1916. C.w. 3 tys. zł.

Poz. 866 — Kamiński A., Jaćwież — terytorium, ludność, stosunki gospodarcze i społeczne, Łódź 1953. C.w. 2,5 tys. zł.

Poz. 962 — Kraszewski J. I., Ostatnia z Książąt Słuckich, T. I—III, Wilno 1841. C.w. 4 tys. zł.

Poz. 1129 — Naruszewicz A., Żywot J. K. Chodkiewicza wojewody wileńskiego, hetmana wielkiego W.Ks.Lit., T. 1—2, Naklów 1858. C.w. 7 tys. zł.

Poz. 1294 — Rettel L. Cyryl i Metody, Streszczenie najnowszych poszukiwań, Paryż 1871. C.w. 6 tys. zł.

Poz. 1367 — Sprawa Borysa Kowerdy, Zabójstwo posła Z RR Piotra Wojkowa, W-wa 1927. C.w. 3 tys. zł.

Poz. 1456 — U stóp Najjaśniejszego Cesarza Wszech Rossyj. Najpokorniejsze prośby katolików obrządku greckiego i łacińskiego o pozostawienie ich przy wierze rzymsko-katolickiej, Kraków 1896, C.w. 7 tys. zł.

Poz. 1499 — Wiktor J., Oporni. Opowieść z Podlasia, Lwów 1920. C.w. 1, 2 tys. zł.

У аўкцыёне можна таксама прыняць удзел, пасылаючы пісьмовыя заказы па адрасу: Antykwariat, ul. Świerczewskiego 39/41, 25-025 Kielce. У іх неабходна падаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, першыя словы загалоўка і найвышэйшую прапанаваную цану.

**Пётр Байко**

## ХТО ДАПАМОЖА

У рэдакцыюназваніў чытач з вёскі Гароднічкі Гродзенскай вобласці Эдуард Карэчка. Ён вельмі хацеў бы атрымліваць „Ніву". Ды вось бяда: спазніўся з падпіскай і застаўся без „Нівы" на цэлы год, бо ў Беларусі на „Ніву" прымаюць падпіску толькі раз у год. Аб тым, каб купляць „Ніву" ў кіёску, не можа быць і гаворкі, бо ў той вёсцы, ды і ва ўсёй ваколіцы там „Нівы" не купіш.

Можа, знойдуцца сярод нашых чытачоў у Польшчы людзі, якія хацелі б дапамагчы Эдуарду Карэчку чытаць „Ніву". Можа, захацелі б пазнаёміцца з нашым чытачом, сябрам з Беларусі, каб абменьвацца з ім газетамі, кніжкамі. Нашага чытача з Гродзеншчыны цікавіў бы і „Беларускі каляндар на 1990 год". Маем надзею, што на гэтую просьбу, як гэта ўжо не раз бывала, адгукнуцца нашыя чытачы з Беласточчыны і напішуць Эдуарду Карэчку. А вось яго адрас: БССР, Гродзенская вобласць, Ваўкавыскі раён, пошта Роднікі, в. Гароднічкі, Эдуарду Карэчку.

## АБ'ЯВЫ





## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ

*Царква ў Дайлідах.*

*Мал. У Петрука*

## ЗНІШЧАНЫЯ МОГІЛКІ

Ноччу 16—17 студзеня г.г. на праваслаўных могілках прыхода св. Яна ў Варшаве (квартал Воля) невядомыя злачынцы знішчылі 52 надмагільныя помнікі і 10 крыжоў. Гэты варварскі здзек над месцам вечнага спачынку быў учынены ў той частцы могілак, якая мяжуе з вуліцай Пустоля. Якраз там знаходзіцца таксама ўчастак, дзе раней хавалі памёршых рымска-каталіцкага веравызнання. Злачынцы нішчылі без разбору і каталіцкія і праваслаўныя магілы.

Настаяцель прыхода св. Яна ў Варшаве, айцец Анатолій Шыдлоўскі (працуе тут з 1973 года), з якім я звязаўся тэлефанічна 18 студзеня, сказаў мне, што ён упершыню сутыкаецца з такім варварствам у дачыненні да могілак. Злачынцы ламалі крыжы, пераварочвалі надмагільныя помнікі, трушчылі надмагільныя пліты. Паводле таго, што яны пасля сябе пакінулі, айцец Шыдлоўскі мяркуе, што іх было чалавек некалькі. Найбольш пацярпелі рымска-каталіцкія магілы пахаваных у 1976-1980 г.г. і праваслаўныя магілы загінуўшых ад нямецкіх бомбаў у 1939 годзе.

Справу расследуюць адпаведныя органы Міністэрства ўнутраных спраў на квартал Варшава-Воля. Міліцыя пабывала на могілках удзень, 17 студзеня, а ноччу 17-18 студзеня злачынцы вярнуліся, каб працягваць справу знішчэння. Было знішчана яшчэ 20 помнікаў і 4 крыжы. Злачынцы ўвайшлі на могілкі, пераскочыўшы мур-агароджу, пакінулі выразныя адбіткі ботаў на зямлі.

Агульная шкода ацэньваецца на 50 мільёнаў злотых.

**Ян Максімюк**

## ПЕРШЫ КРОК ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Навучанне беларускай мовы на Беласточчыне ідзе такой дарогай, якую вызначаюць самі настаўнікі, дырэктары, інспектары школ, у якіх адбываецца навучанне гэтага прадмета.

У некаторых школах справа беларускай асветы мае шырэйшы шлях. Там настаўнікі актыўна ўключаюцца ў грамадскую дзейнасць, арганізуюць конкурсы і адначасова заахвочваюць сваіх навучэнцаў да распаўсюджвання беларускай культуры.

Са сваёй сямігадовай практыкі настаўніка-метадыста заўважаю, што настаўнікі з падрыхтоўкай да навучання беларускай мовы больш актыўна і эфектыўна адданы сваёй прафесіі. І гэта зусім зразумела. У іх больш ведаў, цікавых інфармацый, дык больш могуць перадаць сваім выхаванкам, зацікавіць іх прадметам.

Кожны настаўнік мае службовы і маральны абавязак пашыраць сваю адукацыю. Дагэтуль пашырэнне ведаў настаўнікаў беларускай мовы адбывалася на метадычных канферэнцыях і на курсах павышэння кваліфікацый у Педагагічным інстытуце ў сталіцы Беларусі — Мінску. Кожны год дваццаціасабовая група настаўнікаў мае магчымасць быць слухачамі выкладчыкаў педінстытута. Гэтыя паездкі маюць вялікую вартасць. Жывы кантакт з беларускай літаратурнай мовай, тэарэтычнае знаёмства з методыкай выкладання мовы і літаратуры, гісторыяй БССР, літаратурнай крытыкай, сучаснай мастацкай літаратурай, культурная праграма пасля заняткаў пашыраюць у значнай ступені веды настаўнікаў і іх кругагляд.

Аднак яшчэ лепшай формай павышэння кваліфікацый настаўнікаў беларускай мовы былі б паездкі ў час навучальнага года і знаёмства з працай настаўнікаў-наватараў, прысутнасць на іх уроках.

Пачатак такога супрацоўніцтва даў дырэктар Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі імя У. Спасоўскага ў Беластоку д-р Янка Зенюк, дзякуючы якому было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Педагагічнай бібліятэкай і Гродзенскім абласным інстытутам удасканальвання настаўнікаў.

У выніку гэтага пагаднення пяціасабовая група настаўнікаў беларускай мовы ад 24 да 29 снежня 1989 г. удзельнічала ў рэспубліканскім семінары творчых настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, выхавацеляў дзіцячых дашкольных устаноў, выкладчыкаў прафесіянальна-тэхнічных і педагагічных вучылішчаў па тэме „Шляхі павышэння эфектыўнасці навучання і выхавання праз роднае слова".

У семінары прымалі ўдзел не толькі настаўнікі, але і вядомыя навуковыя работнікі, дзеячы беларускай рэспублікі, намеснік міністра і працаўнікі міністэрства.

З дакладамі выступілі: А. І. Падлужны, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа Акадэміі навук БССР; М. М. Шавыркін, галоўны рэдактар часопіса „Беларуская мова і літаратура ў школе"; М. І. Мушынскі, навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры Акадэміі Навук БССР; В. Я. Ляшук, загадчык кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна; В. К. Раманцэвіч, загадчык кабінета беларускай мовы і літаратуры Мінскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў; Я. А. Цумараў, сакратар рады Таварыства беларускай мовы, настаўнік СШ № 180 г. Мінска; А. М. Пяткевіч, выкладчык кафедры беларускай літаратуры

# КАРОТКІ АБРЫС БЕЛАРУСКАГА ПЫТАННЯ

ПАДРЫХТАВАЎ АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

## З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.

— 10 —

У гэты час Беларуская сацыялістычная грамада пачала партыйную агітацыю сярод народных настаўнікаў і школьнай моладзі, імкнулася да ўвядзення беларускай мовы ў школьніцтва, арганізавала Беларускі настаўніцкі саюз і Беларускі саюз настаўніцкіх семінарыяў, а прагкучы мець уплывы сярод рабочых, стварыла рабочыя прафсаюзы ў Мінску. У 1906 годзе партыя арганізавала сельскія забастоўкі ў Мінскай губерні. Свайму развіццю арганізацыя забавязана С. Кукелю, К. Янкоўскай, А. Бурбісу, Ф. Стацкевічу, Ф. Скандратаву, А. Шабуні, К. Кастравіцкаму і другім.

З вышэй прыведзеных фактаў відаць, што беларускі рух характарызуецца ў гэты час вялікай дынамікай. Наколькі на пачатку быў гэта рух палякаў і рускіх, сімпатызуючых беларусам, настолькі пазней пачынае пранікаць у сялянскія і работніцкія масы і становіцца беларускім адраджэнскім рухам. Бачым, што Беларуская сацыялістычная грамада стараецца з аднаго боку прыцягнуць да сябе сялянскія масы і часткова рабочых, а з другога боку карэнную беларускую інтэлігенцыю і паўінтэлігенцыю, якая выводзілася з сялянскай масы. Апрача гэтага, пачала абеларушвацца польская інтэлігенцыя мясцовага паходжання. У выніку такога працэсу беларускі рух прыцягнуў братоў Антона і Івана Луцкевічаў і выдатнага беларускага паэта Івана Луцэвіча (Янку Купалу) ды іншых.

Такую дынаміку дзейнасці ў галіне развіцця беларускага руху можна вытлумачыць уласцівым гістарычным момантам — руска-японскай вайной, якая, як ужо было падкрэслена, разбудзіла нацыянальныя зрухі сярод усіх зняволеных народаў.

У хуткім часе рэчаіснасць даказала немагчымасць рэалізацыі шырока запланаваных намераў. І таму беларускі рух прыстасоўваецца да існуючых умоў, абмяжоўваецца культурна-асветніцкай дзейнасцю і далейшым усведамленнем беларускага люду.

Вынікам гэтай дзейнасці і вялікім дасягненнем быў тыднёвік „Наша доля“, першы нумар якога выйшаў у свет у верасні 1906 года. Часопіс гэты меў два выданні: для беларусаў-праваслаўных выходзіў гражданкай, а для беларусаў-каталікаў — лацінкай.

Як на тагачасныя ўмовы, ідэйны напрамак „Нашай долі“ быў надта радыкальны. І таму пасля выхаду шасці нумароў, пяць з якіх было сканфіскавана, тыднёвік перастаў выдавацца. Замест „Нашай долі“ пад рэдакцыяй Антона Луцкевіча пачаў выходзіць тыднёвік „Наша ніва“, які таксама выдаваўся двума шрыфтамі.

У хуткім часе „Наша ніва“ сканцэнтравала вакол сябе ўсю беларускую інтэлігенцыю, якая разумела мэты тыднёвіка і старалася для яго працаваць. Стаў ён цэнтрам усяго беларускага руху, які праявіўся ў дзейнасці Беларускай сацыялістычнай грамады. У „Нашай ніве“ згодна супрацоўнічалі, выдаючы часопіс вельмі старанліва, прыстасоўваючы яго да разумовага ўзроўню селяніна і сялянскіх зацікаўленняў, маладыя пісьменнікі з паходжання сяляне, рабочыя, рамеснікі, народныя настаўнікі і іншыя. Належалі да іх: Казімір Кастравіцкі (Кагавец), вядомы ўжо нам як член Беларускай рэвалюцыйнай партыі, Алаіза Пашкевічанка (Цётка), член пецярбургскага аддзялення Беларускай рэвалюцыйнай партыі, Ядвігін, А. Паўловіч, Леўчык, Я. Колас, Іван Луцэвіч (Янка Купала), М. Багдановіч, З. Бядуля, А. Гарун, Ф. Аляхновіч і публіцысты: Вацлаў Ластоўскі (А. Навіна, Власт), Я. Лёсік і іншыя. (Аўтар памыліўся, прыпісваючы В. Ластоўскаму псеўданім А. Навіна. Псеўданім гэты належаў Антону Луцкевічу — А. Б.).

У сваіх публікацыях названыя аўтары дамагаліся пашанавання народнай мовы, увядзення яе ў школы і ў святыні двух веравызнанняў і стварэння ўмоў да нацыянальнага і культурнага развіцця Беларусі.

Як ужо было сказана, „Наша ніва“, як і „Наша доля“, была друкавана гражданкай для беларусаў-праваслаўных і лацінкай для беларусаў-каталікаў. У пазнейшы час аднак у выніку, галоўным чынам, фінансавых цяжкасцей „Наша ніва“ выходзіла толькі гражданкай.

*(Працяг будзе)*

## ЦІ ЎСЁ ЎЖО ЗАКОНЧЫЛАСЯ?

(Працяг са стар. 1)

скай рады ў Гайнаўцы Ян Сухадола спыніў рашэнне начальнік Я. Рудзінскай-Патэюк адносна намесніка дырэктара ГДК, абапіраючыся на тое, што гэтае рашэнне не гарантуе вярнуць добрую атмасферу працы ў ГДК і паспяховую дзейнасць установы, паколькі яно не задавальняе большасці працаўнікоў. Справа мае быць разгледжана на пасяджэнні Гарадской рады 28 снежня 1989 г.

Эва Коркус адчула, што пасада намесніка выслізгваецца з яе рук, і прыняла яшчэ адно рашэнне: аб'явіла галадоўку. Заселла каля ёлачкі ў Доме культуры, выпісала лозунг, што пратэстуе супроць сталінскіх метадаў дырэктара Бушко, і галадала. А салідарнікам заявіла, што яна выпісваецца з „Салідарнасці“, бо прафсаюз не апраўдаў яе спадзяванняў і перастаў падтрымліваць яе слушныя патрабаванні.

Калегам пані Эвы нейк удалося ўгаварыць яе. Яна спыніла галадоўку, спыніла таксама сваё рашэнне выступіць з „Салідарнасці“. Усё гэта адбылося перад каталіцкімі Калядамі, яшчэ ў мінулым годзе.

Цяперака пані Эва знаходзіцца ў водпуску. Адпачывае пасля ўтомнага перыяду актыўнасці ў лістападзе і снежні. Намеснікам дырэктара паставілі адну паню звонку. Думаю, што ўжо ніводзін з бакоў, выступаўшых у гэтым канфлікце, не спадзяецца на паспяховае завяршэнне цэлай справы так, каб амбіцыя пані Эвы была заспакоена. Дзеля яе заспакаення пані Эва кінула на вагу аўтарытэт „Салідарнасці“. Спачатку аўтарытэт той здаваўся надзвычай важкім, уся справа была ўжо амаль у кішэні. Цяперака справа выглядае крыху інакш.

А дырэктар Бушко? Ягоныя клопаты яшчэ не закончыліся. Як кажуць, бяда не ходзіць у адзіночку. Жыццёвым лёсам Мікалая Бушко зацікавіўся пракурор. Вядзецца расследаванне гаспадарчай дзейнасці дырэктара Бушко ў сувязі з дзейнасцю адной прыватнай суполкі, акцыянерам якой ён з'яўляецца.

**Ян Максімюк**

Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта.

У далейшым праца праходзіла ў 5 секцыях. Наша група прымала ўдзел у працы секцыі настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры ў СШ № 26 г. Гродна.

Усіх прысутных цікавіла справа навучання беларускай мовы ў Польшчы і сітуацыя, у якой апынулася беларуская асвета на Беласточчыне. Многія настаўнікі прапанавалі нам супрацоўніцтва, запісвалі адрасы, каб даслаць нам спеўнікі, п'есы на школьную сцэну, мастацкую літаратуру, метадычныя дапаможнікі і інш. А вечарам, калі мы былі ў тэатры, дык у мяне назбіралася поўная сумка кніжак, прыдатных у нашай працы.

Школа № 26 г. Гродна, хаця маладая, бо існуе толькі тры гады, прасякнута беларускім духам. Дырэктар прывітаў удзельнікаў семінара на беларускай мове. На заканчэнне ў актавай зале, прыбранай на беларускі лад, вучні разам з настаўнікамі паказалі беларускі народны абрад „вячоркі“ (у нас на Беласточчыне — шчодры вечар). Мы мелі магчымасць паглядзець розныя беларускія танцы, паслухаць народныя песні, якія і ў нас спяваюцца, пабачыць варажбу, адчуць беларускую гасціннасць.

Пасля такой цікавай праграмы і ў нас нарадзілася думка арганізаваць такія ж „вячоркі“. Быць можа, на наступны год у конкурсе на школьную п'есу некаторыя настаўнікі будуць ставіць вячоркі!?

Настаўніца з Оршы расказвала пра свой калектыў, які ставіць беларускае вяселле, і ахвотна прыехала б са сваім калектывам у Польшчу. Аднак цяжкасць у тым, хто зможа прыняць 35 чалавек. Школа, у якой працуе гэтая настаўніца, з вялікай радасцю прыме калектыў з Беласточчыны.

У апошні дзень пабыўкі мы паехалі ў Гудзевічы. Там наведалі мы літаратурна-краязнаўчы музей, заснавальнікам і апекуном якога з'яўляецца А. М. Белакоз — выкладчык беларускай мовы і літаратуры (сёння пенсіянер). Колькі ў гэтага чалавека сілы, ведаў, натхнення да працы! Толькі пазайздросціць. Каб у нас на Беласточчыне былі такія ахвярныя беларусы! А ўсё гэта „з любові да бацькоўскага парога, да матчынай песні, да Роднай Старонкі, да Радзімы, да ўсёй Зямлі“, як гаворыць Алесь Белакоз. На развітанне пачулі мы: „Прыязджайце да нас у Прынямонне. Нашы школьныя экскурсаводы падораць вам незабыўныя хвіліны радасці“. І сапраўды, незабыўныя хвіліны.

Час, праведзены ў Гродне, не быў змарнаваны. Пяць настаўнікаў паглыбіла свае веды. Тры школы і дзве педагагічныя бібліятэкі ўзбагаціліся метадычнымі дапаможнікамі. На метадычных канферэнцыях настаўнікі падзяліліся новымі практычнымі і тэарэтычнымі ведамі з іншымі.

Добра было б, каб гэтае супрацоўніцтва развівалася і набірала творчага размаху. Для развіцця беларускай асветы на Беласточчыне супрацоўніцтва з савецкай Беларуссю неабходнае, а найлепш — з блізкай Гродзеншчынай. Хацелася б, каб асветныя ўлады Беласточчыны былі такой самай думкі, як дырэктар Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі.

Гаспадарам з Гродна — Тамары Прадзед і Клаўдзіі Кулік вялікае дзякуй за мацярынскую апеку ў час нашай пабыўкі, а дырэктару Гродзенскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў С. Сакалоўскаму вялікае дзякуй за запрашэнне нас у Гродна.

**Тамара Русачык,**

настаўнік-метадыст беларускай мовы

## ЗАПРАШАЕМ НА КАНГРЭС...

Ініцыятыўная група Беларускага грамадскага камітэта „Грамада“ арганізуе заснавальніцкі кангрэс, які адбудзецца 10 лютага 1990 года а 10 гадз. у будынку ГП БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11. Запрашаем усіх беларусаў, якія жадаюць дзейнічаць у нашым палітычным руху. Адной з галоўных мэт яго з'ўляецца абарона правоў беларускага насельніцтва. Перад намі — выбары ў тэрытарыяльныя самаўправы, вырашэнне палітычных, эканамічна-гаспадарчых, культурна-асветніцкіх праблем беларусаў Беласточчыны.

Час, каб беларусы свае справы вырашалі самі!

За ініцыятыўную групу —
**В. Стахвюк**

## ... І АГЛЯД

11 лютага 1990 г. а 14 гадз. у будынку ГП БГКТ у Беластоку адбудуцца раённыя эліміпацыі конкурсу „Беларуская песня '90“.

# ВЕРУ Ў ВЫНІКІ СВАЁЙ ПРАЦЫ

**(Размова з настаўнікам)**

У мінулым навучальным годзе бельская падставовая школа № 3 заняла першае месца ў ваяводстве па ўзроўні навучання, абсалютна выйграваючы прадметныя конкурсы. Чацвёртая частка ўсіх ваяводскіх лаўрэатаў насіла на рукаве эмблему „тройкі" — гэта было аж дзесяць лаўрэатаў. Вось прозвішчы найлепшых:

Вера Матысюк — І месца па польскай мове,

Агнешка Жукоўская — І месца па біялогіі,

Вера Кардзюкевіч — 2 месца па матэматыцы,

Марэк Майстровіч — 2 месца па геаграфіі і 5-ае па матэматыцы,

Міраслаў Мацеюк — 3 месца па геаграфіі,

Оляф Гаўрылюк — 4 месца па геаграфіі,

Міраслаў Бяроза, Славамір Цар і Адам Свентахоўскі — усе трое 5 месца па геаграфіі.

Шмат было яшчэ і іншых вучняў у першых дзесятках.

Такія вынікі — гэта супольныя дасягненні ў працы вучняў і настаўнікаў.

З гэтай нагоды прадстаўляем аднаго з настаўнікаў бельскай школы № 3 Юрку Баену — географа не толькі па прафесіі, але і па сваіх зацікаўленнях, пасіях. У ліку дзесяці лаўрэатаў школьных конкурсаў аж шэсць вучняў было па геаграфіі.

10 гадоў назад Юрка Баена скончыў геаграфічны факультэт Люблінскага універсітэта. Туды пацягнула яго ахвота лепш пазнаць свет, сваю краіну, цікавасць да прыроды і любоў падарожнічаць. Будучы студэнтам, шмат паездзіў, зведаў. Яго лірычная душа цешылася роднай прыродай, якая фармавала яго як будучага настаўніка, патрыёта, але і паэта. Нельга не ўспомніць, што лірычныя творы маладога настаўніка часта друкуюцца на літаратурнай старонцы „Нівы". Ён падрыхтаваў ужо да друку некалькі зборнікаў, але адсутнасць беларускага выдавецтва ў Польшчы закрывае дарогу ў літаратуру маладым беларускім аўтарам.



**Настаўнік і паэт Юрка Баена.**

На гэты раз мяне цікавіў Юрка Баена як настаўнік-географ, які ўцягнуў столькі здольных вучняў у прыгоду, якую называем прадметнымі алімпіядамі.

— Настаўніцкі хлеб нялёгкі, — кажа Юрка. — Люблю геаграфію, люблю прыроду, люблю падарожнічаць. А вось настаўнічаць — гэта ўжо мой абавязак. Настаўніцкую працу можна ў нейкай меры параўнаць з працай будаўнікоў. І адны і другія будуюць ад фундаментаў: будаўнікі — дом, а мы — чалавека. Толькі будаўнік значна хутчэй бачыць вынікі сваёй працы. А настаўнік доўга не ведае, ці тое, над чым ён так старанна і карпатліва працуе, дасць спадзяваны вынік.

*— Але вы, Юрка, свае вынікі ўжо бачыце. За свае дзесяць год працы вы ўжо нямала дасягнулі ў выхаваўчай працы.*

— І мяне гэтае цешыць. Вынікі прыйшлі не адразу. Але я веру ў сябе. Ведаю, што магу зрабіць нямала карыснага і патрэбнага дзецям. І таму стараюся даваць з сябе максімум працы і веру, што гэта прынясе добрыя вынікі.

*— Сярод вашых вучняў толькі ў мінулым годзе было аж шэсць лаўрэатаў, а нямала ж было і ў папярэднія гады. Ці ж гэта не дасягненне? Раскажыце, як вы выбіраеце здольных вучняў да ўдзелу ў конкурсах.*

— Сапраўды. Першага лаўрэата я падрыхтаваў ужо на другі год маёй працы ў школе. А потым ужо амаль штогод нехта з вучняў займаў высокія месцы ў геаграфічнай алімпіядзе. Сярод вучняў я найчасцей вышукоўваю яркія індывідуальнасці. А выбіраць ёсць з каго. Школа вялікая, больш тысячы вучняў. Я працую з пятнаццаццю класамі. Добра пачаць працу ў падрыхтоўцы да конкурсаў з наймалодшымі. Бо конкурсы адбываюцца раз на два гады. А добра было б, каб вучань паспеў удзельнічаць два разы.

*— Сваю любоў да геаграфіі, да роднага краю вы стараецеся перадаваць дзецям не толькі на ўроках ці ў працы з кніжкай?*

— Вядома. Кожны чалавек патрабуе самарэалізацыі. Я знаходжу сябе ў цікавай працы з моладдзю. Выконваю гэтым не толькі свой абавязак, але стараюся адкрыць перад выхаванкамі той чароўны свет, які і мяне заварожвае. Вось я кірую яшчэ ў школе гуртком краязнаўчага таварыства. Ходзім у паходы, на экскурсіі, ездзім па краіне. Таксама ўдзельнічаем у турыстычна-краязнаўчым турніры. І тут заваёўваем добрыя месцы. У папярэднія гады два разы заваёўвалі вучні нашай школы другія месцы ў ваяводстве, сёлета выпала нам чацвёртае. А ў турніры гэтым трэба выказацца не толькі ведамі, але і ўдзельнічаць у турысцкім паходзе, трэба ўмець хадзіць па азімуту, умець разбіваць палатку і шмат іншага.

*— Са сваімі вучнямі вы ўжо не раз аб'ездзілі ўсю Польшчу.*

— Штогод у школе арганізуем па дзве экскурсіі па Польшчы. За свой настаўніцкі стаж я ўжо правёз па нашай краіне больш як паўтара дзесятка вучнёўскіх экскурсій. Я сам планую трасу, потым з вучнямі тэарэтычна апрацоўваем усе месцы нашай пабыўкі, каб пабачыць ужо тое, аб чым мы даведаліся з літаратуры. Так бывае найцікавей.

*— А якія ў вас задумы на будучыню? Аб чым марыце?*

— Хацелася б з дзецьмі пабываць на экскурсіі ў Беларусі.

*— Жадаю вам гэтага. І ўсяго найлепшага ў далейшай працы.*

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**

# ДВОЙЧЫ НА КАЛЯДУ

Быў такі дзень. Два гады таму. Першы дзень Ражджаства па старому стылю. У рыбалаўскай царкве стаяла ёлка, а некалькі дзесяткаў дзяцей з усяго прыхода вялі пры ёй сваю хвалюючую службу, падрыхтаваную пад кіраўніцтвам бацюшкі Рыгора Сасны: яны спявалі і дэкламавалі вершы — найбольш з вялікага нурту рэлігійнай рускай паэзіі — аб нараджэнні Ісуса Хрыста.

Калі на вёску і навакольныя палі зышла ноч, мы выехалі ў Паўлы. Паўлы належаць да прыхода ў Рыбалах, але ёсць у іх і свая царкоўка на могілках. І там бацюшка Сасна ў дамоўленыя дні праводзіць багаслужбы. Паўлаўскі прыхаджанін вёз нас на сваім фіяце (я ўспамінаю пасляваенныя гады ў вёсцы Крывая, куды бацюшка прыязджаў на фурманцы). Вось мы мінулі лес, зноў поле і ўехалі ў вёску Паўлы, павярнулі налева і аказаліся на канцы вёскі.

Лёгка ўгору вяла праз палі дарога. Там далей, на ўзгорку, зарысоўвалася хваіна — могілкі. На сярэдзіне іх стаяла царкоўка. Міргаючы здалёк святлом, вітала нас — зямных вандроўцаў і запрашала ў свой спакой. Я гэтай хвіліны ніколі не забуду! Тое святло, скачучы між дрэў на ўзгорку, здалося мне проста незямным. І той лясок з яго царквой, яго могілкамі, быў як жывы, хацелася туды ісці!

Царкоўка, як той казачны церам, здалася мне цудам, як і ўвесь той ачараваўчы першы дзень Ражджаства. Бацюшка Сасна сказаў пропаведзь — кароткую, ясную, мовай, усім зразумелаю. Пропаведзь аб тым факце, памяць якога штогод святкуем 7 студзеня і які цесна звязаны з гэтай зямлёй, з гэтай вёскай, населенай праваслаўнымі беларусамі. Мне тут прыпомніўся адзін цікавы эпізод з маіх журналісцкіх вандровак па беларускіх вёсках Беласточчыны. Аднойчы ў вёсцы Грабавец жанчыны расказвалі нам, што ў іх святліцы бацюшка з Дубіч-Царкоўных праводзіць урокі рэлігіі. Мы спыталі, на якой мове бацюшка вучыць дзяцей? „Як то на якой? — разам здзівіліся яны, — на-нашай, праваслаўнай!"

На святы ў нашы беларускія праваслаўныя вёскі з'язджаюцца сем'і. Сустракаюцца разам з дзядамі і бацькамі ў царкве, разам за стол сядаюць. Так было і ў Паўлах у той дзень. На святы вёска вырасла па колькасці жыхароў. І бацюшка, помню, жадаў тады паўлаўцам, вядомым сваёй прывязанасцю да роднага, каб іх сямейныя сувязі і сувязь з зямлёй дзядоў і бацькоў не толькі не парываліся, а каб мацнела, каб ніколі нідзе не забывалі, хто яны і адкуль родам.

Ражджэственскія гімны паўлаўскія пеўчыя спявалі цудоўна. І ўсе мы натхнёна праспявалі разам „Рождество твое, Хрысте Боже наш".

З царкоўкі я выходзіла неахвоча і памалу. За мной толькі стараста няспешна гасіў святло. Спускаліся ўніз па сцежцы праз поле ў вёску.

Тут у гаспадара, які прывёз бацюшку, елі святочную вячэру. Неўзабаве прыйшлі калядпікі. Я ўбачыла сярод іх, бадай, усіх членаў паўлаўскага тэатра, паўлаўскіх спевакоў, якія прымалі ўдзел у конкурсах беларускай песні. Пасля прывітальнага слова і запытання ці можна спяваць, грымнула калядка.

Паўлаўскія каляднікі кожны год пачынаюць калядаванне з аднаго канца вёскі і канчаюць на другім. Тады на пачатку я налічыла іх — недзе 15—17 асоб. Потым да калядуючых далучаюцца іншыя. І ў канцы вёскі, як мне казалі, гэта ўжо вялікі хор. Што гэта праўда, мы маглі пераканацца ў той жа вечар, калі на тым жа фіяце вярталіся дамоў. Па сярэдзіне вуліцы паўлаўскія каляднікі затрымалі нас, дзякавалі бацюшку за прыезд, развітваліся. Іх ужо было значна больш, чым на пачатку.

Паўлаўскія каляднікі многія гады закалядаваныя грошы прызначалі на царкву. Яны самі яе за свае грошы адрамантавалі ды і ў далейшым, казалі, многае яшчэ трэба рабіць.

І вось снежань 1989 г. Заходзіць у рэдакцыю бацюшка Рыгор Сасна. Ён бывае ў нас часта і заўсёды папракае кагосьці, што вось ехалі праз Рыбалы і не зайшлі да яго. „Адкуль вы ведаеце, што я праязджала праз Рыбалы?", — пытаюцца вінаватыя. „Я ўважліва чытаю „Ніву", а вы былі там і там, значыць, ехалі праз Рыбалы".

Я ў той снежаньскі дзень была ў раскаваным настроі — вядома, свежаспечаны пенсіянер. Мне ўспомнілася пры сустрэчы з бацюшкам тая пабыўка ў Паўлах, той цудоўны міраж, як мне цяпер здаецца. Я сказала, што мне хочацца пабыць на Ражджаство ў вёсцы, пакалядаваць з людзьмі і запісаць на касету некаторыя калядкі. У мяне ёсць тры любімыя вёскі, дзе існуюць беларускія калектывы, якія калядуюць — Паўлы, Тыневічы і Арэшкава. Бацюшка сказаў: „У Паўлы прыязджайце".

І так рашэнне было прынята. Я дарага купіла касеты. І Паўлам бацюшка намякнуў аб маім жаданні калядаваць з імі. Я яшчэ некалькі дзён да свята пазваніла бацюшку, упэўнілася. І

# АЛЯКСЕЙ ПЯТКЕВІЧ
## ТВОРЧЫЯ ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦІ Ў „БЕЛАВЕЖЫ"

(Працяг са стар. 1)

мажлівасці беларускага слова ў аваладанні багаццямі сусветнай паэтыкі. Чыквін таксама стараецца ісці гэтым шляхам. Але імкненне да вышынь чалавечага духу, да вышэйшых праяваў хараства, увасобленае ў рацыянальна выверанных вобразах, зыходзіць у паэта з вельмі зямной асновы. Вялікую маральную і эстэтычную цану маюць у яго звычайныя, бытавыя рэчы, вясковая прырода, ды і проста проза штодзённасці. Нават музыка ў Чыквіна нараджаецца самым простым жыццём — сонечныя промні вясковага ранку — нібы гукі фартэпіяна, чуецца мелодыя бабінага лета, гучыць саната восеньскіх яблык-малінавак, а ў чыгуначных шпалах бачыцца клавіятура музычнага інструмента.

Некаторыя паэтычныя містыфікацыі Чыквіна занадта канструктыўныя, твораныя найбольш думкаю („У сталіцы парна, неба — шклянка, у шклянцы — сонца, як павук"), але і тут вельмі прыкметны прадметна-бытавы грунт. Таму зусім не здзіўляе ў Чыквіна з'яўленне такіх вершаў, як „На смерць ве-прука", прасякнутых духам язычніцкага пакланення зямным сілам. Так і згадваецца тут Максім Танк з яго здольнасцю знаходзіць паэзію ў звычайным і нават грубым жыцці.

Чыквін пачынаў як паэт вёскі, матчыных сцежак. У першых кніжках „Іду" (1969), „Святая студня" (1970) адчувальныя рамантычныя парывы да высокага, экзатычнага, але зямное прыцяжэнне перамагае, і лірычны герой хораша і вольна пачуваецца ў стыхіі роднага, дзе „дзяцінства босае, замурзанае лета: святая студня з жураўлём успамінаў". У зборніку „Неспакой" (1977) жыццёвая і мастацкая сталасць аўтара спрыяе развіццю філасофска-аналітычнага пачатку, лірыкі разваг, духоўнага пошуку. Ды і тут Чыквін застаецца ў свеце прадметных, народна-бытавых уяўленняў, пра што сведчаць, напрыклад, вершы „Камень", „Зіма", „Дрэва". Паэтычныя асацыяцыі сучаснага інтэлігента, гараджаніна, навукоўца ўзнікаюць у яго вершах у канчатковым выніку з тых жа матчыных сцяжын, з Дубіч-Царкоўных.

В. Смашч лічыць („Ніва", 11.XII.1988), што Чыквін узбагачае беларускую паэзію, бо адыходзіць ад фальклорнай традыцыі. Мне ж думаецца, што і ў апошняй па часе выдання кнізе „Светлы міг" (1989) аўтар не парывае з такой традыцыяй, нават у сваіх маналогах рацыянальна-кніжнага складу. І менавіта на гэтым напрамку папаўняе скарбонку нацыянальнага паэтычнага слова.

На бяду сваю, на бяду
Праз жыццё ўсё я подбегам
іду...
Дзве душы за сабою вяду
Праз шырокую і мутную ваду.
На сваю бяду, на сваю
Ваду гэту сам лію і п'ю.

Радкі гэтыя досыць традыцыйныя сваёй паэтыкай, але і сучасныя мысленнем.

Народная традыцыя прыкметная ў вершах Міхася Шаховіча, асабліва ў першым яго зборні-



*Аўтар нарыса на семінары літаб'яднання „Белавежа" ў Беластоку (28.X.1989 г.).*
*Фота Яна Максімюка.*

ку „Прамінанне" (1978). Галоўны матыў кніжкі — духоўнае вяртанне да роднага вясковага кута, які ўсё мацней кліча, вабіць хараством уласнага дзяцінства, народнай душы, прыроды. Замілаваннем і смуткам адгукаецца ў сэрцы гэты свет, што застаўся за плячыма, будзіць развагі пра набыткі і страты на нялёгкай дарозе жыцця, пра вечны і неадольны яго рух. Праўда, першая кніжка М. Шаховіча не атрымалася цэласнай і роўнай, як гэта нярэдка бывае. Індывідуальнае аблічча паэта найлепш раскрылася ў наступных яго зборніках — „Святая ноч" (1979) і „Напевы" (1987). Тая паэтычная нота, што прагучала ў ранніх вершах, трансфармавалася цяпер у гарачую, нейкую нават пранізлівую прагу ідэалу. Пошук дабра, святла, чысціні кіруе лірычным героем М. Шаховіча ва ўсіх яго памкненнях, арганізуе лад яго чуйнай душы. Ён уяўляе, як „белыя коні лугамі плывуць", і „бярозы ў белі, нібы русалкі ў імгле вячэрняй", а „яна", зачараваная кветкамі, травамі, росамі, узнялася ў вышыню, да зор і адбілася іконаю ў крыніцы. Герой прызнаецца сабе: „Іду за беллю тваіх кос поплавам сну". Што гэта? Хвара-віта-кволыя мроі рамантыка-суізіральніка, што ўцякае ад жыцця ў свет незямной красы? Згадваецца тут і ранняя Наталля Арсеннева з яе лірычна вытанчанай паэтызацыяй народна-міфалагічных каштоўнасцей. Але ў М. Шаховіча тут іншае, сённяшняе, падказанае драматызмам сучаснага беларускага лёсу. Лірычны герой паэта, змучаны ашуканствам і абяцанкамі, балючым усведамленнем страт свайго народа („Білі нас словамі, білі нагайкамі, білі па мове і па гісторыі"), рвецца душою да святынь роднага жыцця, каб ачысціцца, набрацца веры і сілы.

*(Працяг будзе)*

---

вось, дарагі чытач, дагэтуль не бачу сэнсу ў тым, што са мной здарылася. А так як не пакідае мяне імкненне вытлумачыць сабе наогул усё, то і ў даным выпадку знайшла прычыну: сама вінавата. Напярэдадні каляды, вярнуўшыся з горада надта галоднай, я з'ела вельмі смачную ежу: селядзец з халоднай бульбінай і хлебам. Але з'ела замнога. Вечарам пачалося такое, чаго лепш не ўспамінаць. Я не магла не тое, што глядзець, нават думаць пра ежу, хоць у хаце было двое хворых ляжачых і трэба было ім нешта падрыхтаваць.

Найстрашнейшай была аднак свядомасць, што можа сарвацца мая паездка ў Рыбалы на першы дзень Раждджаства. Я гэтым найгорш мучылася. Гаварыла сабе: Вера, мабілізуйся, можа паправішся. Усё адцягвала, каб не званіць бацюшку. Аж пазваніла ў першы дзень свята недзе пад поўдзень. Пачала тлумачыцца... Хацелася плакаць і злосная была. Усё разам. Мне здавалася, што я вось трачу сімпатыю вельмі мною паважанага чалавека ды ўсіх паўлаўцаў.

Ад Паўлаў яшчэ сігналу няма ніякага. А бацюшка Рыгор Сасна перадаў мне пасля свята велізарны пакет і кароткую інфармацыю па-беларуску пад загалоўкам: „Каляднікі ў Паўлах". (Тэкст ніжэй).

Той пакет я адкрыла толькі ў хаце. Дрыжучы. Але не было ў ім аніводнага слова папроку. Дзякую за гэта! У тым пакеце, затое, было многа розных кніжак і друкаў. Дзве з іх хачу назваць, а за рэшту падзякаваць: „В глыбинном Полесье" (Турово-пинская земля) Ю. А. Лабынцаў, Масква 1989, і Георгій Фядотаў „Россия и свобода" (Сборник статей) Нью-Йорк, 1981.

**Вера Валкавыцкая**



### КАЛЯДНІКІ Ў ПАЎЛАХ

На Беласточчыне каля 90 прыходаў, і ўсе яны святкуюць Раждджаство Хрыстова паводле старога календара.

Вёска Паўлы належыць да прыхода ў Рыбалах. Ноччу з суботы на нядзелю — служба ў царкве. Прыйшоў першы дзень святаў. У царкве была адпраўлена ўрачыстая ўсяночная. У час багаслужбы настаяцель Р. Сасна адчытаў святочнае пасланне сінода архіерэяў Праваслаўнай Царквы ў Польшчы з нагоды Раждджаства Хрыстова. Аб'явіў збор, прызначаны духоўнай уладай на дапамогу Румыніі. У канцы багаслужбы было сказана, што 7 студзеня ў 18 гадзін вечара ў польскім радыё будзе праваслаўнае набажэнства.

У гэты ж першы дзень свята, на 13 гадзіну была аб'яўлена святочная вячэрня ў Рыбалах. Спецыфікай рыбалаўскага прыхода з'яўляецца тое, што настаяцель яго ў першы дзень свята служыць такія вячэрні ў Рыбалах, Войшках і Паўлах. У тых вёсках ёсць цэрквы, і вернікі жадаюць, каб у такое свята ім не аставацца без багаслужбы ў сваёй царкве. Свяшчэннік ставіць за гонар не пакідаць сваіх прыхаджан у гэтых вёсках без урачыстай малітвы.

Апрача таго, добры звычай пануе ў рыбалаўскім прыходзе, як зрэшты і ва ўсіх прыходах Беласточчыны. Такі, што ў першы дзень свята адбываецца калядаванне. Да цікавай і багатай традыцыі ў гэтым належыць вёска Паўлы. Пасля вячэрні тут усе пеўчыя адразу пасля службы ідуць праз вёску са спеўнай калядой.

**Р. С.**

Фота У. Завадскага

---




(Працяг са стар. 2)

W krótkim liście do redakcji nie sposób omówić wszystkich spraw polsko-białoruskich. Wspomnę tylko, że tego, co Polska zawdzięcza synom białoruskiej ziemi też nie dałoby się spisać na wołowej skórze.

Z tych wszystkich wymienionych powodów, uważam cuchnący bełkot „Studia otwartego" za zniewagę osobistą. Mam nadzieję, że uda mi się zabrać głos w tej sprawie nie tylko w liście do „Niwy".

Nie należy przeceniać głosów grupki opętańców, ciężko dotkniętych kompleksem niższości, tym odwiecznym motorem wszelkiego nacjonalizmu, nie należy ich jednak lekceważyć. W swoim czasie bardzo się śmiano z pewnej monachijskiej piwiarni, w której pewien głupi i śmieszny pan z wąsikiem wygłaszał głupie przemówienia i wraz ze swoimi głupimi i śmiesznymi kolegami śpiewał śmieszne i głupie piosenki. Wkrótce potem skończyły się żarty...

Łączę wyrazy szacunku i serdeczne pozdrowienia dla pisma.

З пашанай
**Ziemowit Fedecki**

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.

**6. Назоўнік — працяг.**

Змяненне назоўнікаў па склонах называецца **скланеннем.** Выдзяляюцца тры скланенні. Склонавыя канчаткі залежаць ад тыпу скланення і ад характару асновы.

**Аснова** можа канчацца:

— на мяккі зычны: **край, снежань; Палессе, шчасце; цішыня, злосць;**

— на цвёрды зычны: **горад, дом; жыта, сяло; бяроза, хата;**

— на зацвярдзелы зычны (**ш, ж, ч, дж, р**): **шаша, мяжа; плячо; дождж, дар;**

— на заднеязычны (**г, к, х**): **стог; вока; страха.**

Да **першага скланення** належаць назоўнікі жаночага роду з канчаткам **-а (-я)** у назоўным склоне адзіночнага ліку (**вярба, падлога, песня, цішыня**).

Пры скланенні назоўнікаў першага скланення варта звярнуць увагу на давальны, месны і творны склоны.

Давальны і месны склоны могуць мець канчаткі: **-і, -ы, -е, -э.**

Канчатак **-і** маюць назоўнікі, аснова якіх канчаецца на мяккі зычны: **песня — песні, радасць — радасці.**

Канчатак **-ы** характэрны назоўнікам з асновай на зацвярдзелы зычны (**мяжа — мяжы, сястра — сястры**) і з асновай на заднеязычны **к,** які чаргуецца **з ц,** калі на канчатак не падае націск (**траўка — траўцы, дарожка — дарожцы**), а калі націск падае на канчатак, тады маем канчатак **-э** (**рака — рацэ, шчака — шчацэ**).

Канчатак **-е** выступае ў назоўніках з асновай на цвёрды зычны, які чаргуецца з мяккім зычным (**дзяўчына — дзяўчыне, дзяржава — дзяржаве**) і з асновай на заднеязычны **г, х,** якія чаргуюцца са свісцячымі **з, с** (**дарога — дарозе, страха — страсе**).

У творным склоне магчыма двухскладовыя канчаткі: націскны **-ою (-ёю): вярбою, зямлёю** і ненаціскны **-аю (-яю): ліпаю, песняю,** а таксама аднаскладовыя канчаткі: націскны **-ой (-ёй): вярбой, зямлёй** і ненаціскны **-ай (-яй): ліпай, песняй.**

Тут варта звярнуць увагу на родны склон назоўнікаў мужчынскага роду, дзе магчымы два розныя канчаткі: **-а (-я) і -у (-ю).**

Канчатак **-а (-я)** характэрны назоўнікам, якія абазначаюць:

— назвы жывых істот: **ваўка, салаўя, чалавека;**

— назвы канкрэтных прадметаў: **будынка, матацыкла, стала;**

— назвы ўстаноў, арганізацый, населеных пунктаў: **інстытута, завода, горада, Віцебска;**

— адміністрацыйныя, геаграфічныя і астранамічныя паняцці: **Кувейта, Марса, Месяца;**

— назвы вымярэнняў: **грама, літра, дня, ліпеня, рубля, градуса;**

— назвы спартыўных паняццяў: **валейбола, вальса;**

— назвы спецыяльных навуковых тэрмінаў: **назоўніка, канчатка, квадрата;**

— словы **аўса, хлеба.**

Канчатак **-у (-ю)** маюць назоўнікі, што абазначаюць:

— розныя абстрактныя паняцці: **адпачынку, страху, ганарару; фіялету; крыку, руху;**

— грамадскія фармацыі, навуковыя тэорыі: **капіталізму, дарвінізму.** Тут варта падкрэсліць, што ад гэтага прынцыпу рабілася выключэнне для слоў **марксізм, ленінізм, камунізм, сацыялізм** — („Правілы беларускай арфаграфіі, пунктуацыі". Мінск 1959), якія мелі пісацца з канчаткам **-а,** аднак моўная практыка не пацвердзіла штучна створанага правіла і ў сённяшні час перамагло напісанне з канчаткам **-у** (**марксізму, ленінізму, камунізму, сацыялізму**);

— сукупнасць асоб ці прадметаў (зборныя назоўнікі): **калектыву, люду; бярэзніку, дубняку, хмызняку;**

— прасторавыя паняцці: **краю, лесу, лугу, стэпу;**

— рэчывы: **бензіну, кіслароду; мёду, цукру; шоўку; клею, цэменту;**

— з'явы прыроды: **агню, ветру, грому, дажджу, пажару.**

У месным склоне назоўнікі мужчынскага роду могуць мець канчаткі: **-і (-ы), -е, -у (-ю).**

Канчатак **-і** характэрны назоўнікам з мяккай асновай: **край — у краі, цень — у цяні,** а канчатак **-ы** — назоўнікам з асновай на зацвярдзелы зычны, калі абазначаюць неадушаўлёныя прадметы: **мяч — аб мячы, яр — у яры.**

Калі назоўнікі абазначаюць асоб, тады выступае канчатак **-у: муж — аб мужу; стораж — аб сторажу.** Гэтае правіла датычыць не толькі тых назоўнікаў, аснова якіх канчаецца на зацвярдзелы зычны, але таксама назоўнікаў з асновай на цвёрды звчны: **сын — аб сыну, Міхал — аб Міхалу.** Тут варта звярнуць увагу на тое, што моўная практыка не заўсёды пацвярджае вышэй прыведзенае правіла і ў мастацкіх творах вельмі часта выступаюць формы з канчаткам **-е: аб сыне, аб Міхале.**

Канчатак **-у** характэрны таксама назоўнікам з асновай на **г, к, х: рог — на рагу, крук — на круку, бярэзнік — у бярэзніку.**

Канчатак **-е** выступае ў неадушаўлёных назоўніках з асновай на цвёрды зычны, які чаргуецца з мяккім зычным (**крэсла — на крэсле, лес — у лесе, Брэст — у Брэсце**) і з асновай на заднеязычныя **г, х,** калі яны чаргуюцца са свісцячымі **з, с,** (**бераг — на беразе, гарох — у гаросе**).

# КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

### ДАМАШНІ МАКАРОН

На паўтары шклянкі мукі (каля 25 дэкаў) узяць тры яйкі, 1 бялок, соль.

Муку прасеяць, насыпаць на дошку ці ў міску, зрабіць ямку, уліць яйкі, дадаць крыху вады, замясіць цеста спачатку нажом, а калі ўсе прадукты спалучацца, вымясіць рукамі. З падрыхтаванага цеста раскатаць 2 вельмі тонкія бліны, разлажыць іх на чыстай сцірачцы і пакінуць на паўгадзіны, каб крыху падсохлі. Кожны блін перарэзаць напалавіну, палавінкі скруціць у рулет, а пасля рэзаць вельмі вострым нажом. Шырыня макарону можа быць розная. Калі падрыхтоўваем макарон для булёну, таматнага, грыбнога ці фруктовага супоў — рэжам яго вельмі дробна, на шырыню 1—2 мм. Крыху шырэйшы можна выкарыстоўваць для розных запяканак ці страў з фруктамі. Для мясных страў робім макарон шырынёю 5—7 мм. Нарэзаны макарон класці ў вялікую колькасць пасоленай вады, перамяшаць і ад таго часу, калі ён закіпіць, варыць 5—8 мінут. Звараны макарон адцадзіць, паліць халоднай вадой. Падаючы, класці на нагрэтую талерку. Макарон, паліты маслам ці соусам і пасыпаны жоўтым сцертым сырам, можа быць самастойнай стравай на абед, да якой трэба падаць толькі салату.

### БУЛЬБЯНЫЯ КЛЁЦКІ

На паўкілаграма бульбы трэба ўзяць 20 дэкаў пшанічнай мукі, 10 дэкаў крухмалу, 2 яйкі, соль.

Бульбу памыць, абабраць, спаласнуць, палажыць у пасолены кіпецень, зварыць, адцадзіць і, пакуль будзе гарачая, стаўчы. Калі бульбяная маса астыне, дадаць прасеяную пшанічную муку і крухмал, а таксама яйкі. Замясіць цеста. Дошку пасыпаць мукой, цеста падзяліць на невялікія часткі, з іх зрабіць валікі, прыціснуць іх крыху нажом і рэзаць наўскос невялікія клёцкі. Адразу варыць, кідаючы іх у кіпячую пасоленую ваду. Гэтыя клёцкі, якія папулярна называюць капытцамі, можна падаваць як да мясных страў, так і як самастойную страву, дадаючы пры гэтым нейкі соус ці сцерты сыр.

**Гаспадыня**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, здавалася, што ўсё было ў нас, як у людзей. З Мішам пазнаёміліся мы на студыях. Хадзілі два гады. Разам вучыліся і марылі аб будучыні. Быў ён маім першым хлопцам, яму я аддалася. Пасля заканчэння вучобы мы пажаніліся і нарадзілася ў нас двое дзяцей.

Заўсёды жылі мы па-божаму. Я не глядзела ў другі бок, ды і ён не звяртаў увагі на іншых жанчын. Было як было, і мне здавалася, што інакш быць не можа, што ўсё ў нас ідзе як трэба і так яно ва ўсіх. Адкуль жа мне было ведаць, што на сваёй жыццёвай дарозе сустрэну я чалавека, які зменіць мае адносіны да свету і мужчын?..

А было так. У мяне на рабоце арганізоўвалі маёўку. Ехалі толькі тыя, што разам працавалі, бо была дзеля гэтага нагода — гадавіна нашага прадпрыемства. Мужоў і жонак з сабой не бралі. Паехаў таксама і Віктар, мой сябра з працы, які часамі зыркаў на мяне. Калі маёўка была ў разгары, а мы ўжо крыху разагрэліся спіртным, я не заўважыла, як апынулася ў абдымках Віктара. Ад гэтага часу ён ужо ад мяне не адыходзіў. Мы спявалі песні, нехта падыгрываў на гітары, гарэла вогнішча, а мы сядзелі, моцна прытуленыя да сябе, і незаўважальна пачалі цалавацца. Калі Віктар запрапанаваў прайсціся па лесе, я механічна пайшла за ім, зусім не задумваючыся, што я раблю. І так я ўпершыню здрадзіла свайму мужу. У гэтым лесе я перажыла шок, бо ў сваіх найбольш скрытых марах ніколі не ўяўляла сабе, што жанчыне з мужчынам можа быць так добра.

Ад таго часу мы пачалі рэгулярна сустракацца з Віктарам. Ён адкрыў перада мною ўсю таемную чароўнасць палавога сужыцця мужчыны і жанчыны, якой, на жаль, я не ведала дагэтуль. Відаць, не было мне суджана трапіць раней на такога мужчыну, а мой муж не ўмеў мяне разбудзіць як жанчыну. Ды, зрэшты, зразумела я толькі цяпер, што трэба і мець чым разбудзіць. Я са сваім мужам адчувала вельмі ўмеркаваную прыемнасць. А Віктар адкрыў ува мне каханку, пры ім я сябе адчуваю стопрацэнтнай жанчынай.

Дарагое Сэрцайка, я ведаю, што ў Віктара шмат знаёмых, што сустракаўся ён дагэтуль з іншымі жанчынамі, хаця дагэтуль не ажаніўся яшчэ. І вось цяпер ён запрапанаваў мне, каб я адыйшла ад свайго мужа і дзяцей і пачала жыць з ім. Хаця пра дзяцей маіх ён адзываецца вельмі міла, аднак жа пераконвае мяне, што муж выхаваў бы іх лепш, бо ён натуральны бацька. Я закахалася па вушы і цяпер ужо сама не ведаю, што рабіць. Разводу Віктар не дамагаецца ад мяне, але хоча быць са мною разам. Сэрцайка, як жыць? Кахаю і не магу вызваліцца ад гэтага пачуцця. Віктар націскае на мяне, Міша пачаў нешта падазраваць... Няма куды дзецца!

**Галіна**

Галіна! Твой Віктар чалавек даволі банальны, яго пастава вельмі мала арыгінальная. Шмат ёсць такіх нежанатых мужчын, якія ахвотна прынялі б да сябе на нейкі час замужнюю жанчыну, а да таго яшчэ без клапатлівага цяжару — дзяцей. Невядома толькі, на як доўга ён захацеў бы цябе гасціць у сваім доме. Пэўна, пакуль яму не знудзішся. Тое, што ты для яго прыемнасці пакінеш дзяцей на волю лёсу, бо найлепшы бацька не заменіць дзіцяці маці, яго не трывожыць. Галоўнае — што ён будзе магчы карыстацца табою.

А развод? Навошта ён яму! Тады выпадала б ажаніцца з табою! А можа ж трапіцца яшчэ лепшая... Пры яго нязвыклых магчымасцях гэта зусім рэальна! Раней ці пазней ён і так гэта зробіць. І калі б ты рашылася на гэткі крок і адыйшла да яго, то жыла б у вечнай трывозе, падазраючы, што ён не толькі твой.

Застанься лепш з мужам, звычайным мужчынам, і май яго толькі для сябе. Каханне прыходзіць і, як бачыш, адыходзіць. Можа і да Віктара твае пачуцці з часам згаснуць.

**Сэрцайка**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

**Здавалася мне, што я прачнулася. Нешта з левага боку ціснула мяне. Гляджу: я ляжу на тапчане, а з майго левага боку ляжыць труна. Я крыкнула: „Забярыце гэту труну!". Праз хвіліну чую голас майго бацькі-нябожчыка: „Не крычы, зараз мы з мамай яе вынесем!" „Тата, толькі нясіце ў гасцінны пакой, там найхаладней, можа я вам дапамагу, труна ж цяжкая!". „Не трэба, дамо сабе рады!". Труна была адкрытая, у ёй ляжаў адзін з сённяшніх міністраў, а побач была другая труна таксама адкрытая, і ў ёй ляжала мая сяброўка з работы. Неўзабаве бачу, што і мая сяброўка і той міністр падаюць знакі жыцця. У сяброўкі маёй робяцца румяныя шчокі. І яна пачынае памалу садзіцца. Божа, думаю я, як паведаміць яе сям'ю? Званю да суседкі маёй супрацоўніцы, каб перадала аб здарэнні яе сям'і, але яна не згаджаецца. Тады я вырашаю, што сама адвязу яе дахаты. Паяўляецца нейкая вайсковая машына, і мы едзем уздоўж вялізных будынкаў. Неўзабаве дарогу перагарадзілі нам нейкія будоўлі. Мы спыняемся і выходзім з машыны.**

**Той міністр таксама ажыў і з'еў наша масла з масленіцы. Бачу, што ён сядзіць на крэсле. Падыходжу да яго, гладжу па галаве, цалую ў шчаку і гавару: „Дзякуй Богу, што ты ўваскрос!".**

**Дануся**

**Данусяі Сон твой супярэчлівы. Не ведаю, у якім ты ўзросце, але ведаю, што труна, калі сніцца старым, абазначае хуткую смерць, сямейным людзям — прыбытак, маладым — вяселле і доўгае жыццё. Ёсць аднак яшчэ адзін важны аспект твайго сну. Нядобра, калі ў сне нябожчык ажывае. А ў цябе ажыла і сяброўка і той міністр. Ды і тая дарога, якую перагарадзілі будоўлі... Пацалунак... Няшчырасць.**

**Астрон**

 ПАГЛЫБЛЯЙ  СВАЕ ВЕДЫ 

## ЛЕКАВЫЯ РАСЛІНЫ

Выкарыстоўванне чалавекам раслін, у тым ліку і лекавых, пачалося вельмі даўно, і за тысячагоддзі накоплены велізарны вопыт.

Спачатку весткі аб лячэбных якасцях раслін перадаваліся вусна з пакалення ў пакаленне, а з развіццём пісьмовасці пачалі паяўляцца запісы ў „лячэбніках", „траўніках" і іншых падручніках зялярства.

У тыя далёкія часы расліны былі адзінымі, калі не лічыць чараў, сродкамі лячэння розных хвароб. Людзі верылі ў іх цудадзейную сілу. Гэтым карысталіся чараўнікі, знахары, лекары.

Пазней лячэнне лекамі было ўзаконена і пачалі паяўляцца першыя аптэкарскія агароды і паўсюдна аптэкі. Лекавыя травы пачалі збіраць і па месцах іх дзікага прарастання — у лясах, на лугах, на балотах і г.д. Пачалося таксама вывучэнне мясцовай расліннасці з мэтай пашырэння колькасці выкарыстоўваных у лячэнні траваў.

Найбольш лекавых раслін можна знайсці ў лесе. Лясныя лякарствы — ландыш, валяр'ян, папараць, наперстаўка, ядловец і іншыя не маюць адпаведніка ці замenніка сярод траваў ці сінтэтыкаў.

На сённяшні дзень у медыцыне выкарыстоўваецца каля 300 відаў лекавых раслін. Каля 40 працэнтаў усіх лекаў вырабляецца з сыравіны расліннага паходжання. Асабліва шырока прымяняюцца травы пры лячэнні сардэчна-сасудзістых захворванняў, хвароб страўнікава-кішэчнага тракту ці вантробы.

Пры выкарыстоўванні раслін у лячэнні хвароб нельга забываць, што многія расліны маюць у сабе моцныя атрутныя рэчывы, нават небяспечныя для здароўя. Таму выкарыстоўваць іх трэба толькі пад наглядам лекара і пры яго згодзе. Самалячэнне лекавымі раслінамі можа давесці да пагаршэння здароўя хворага чалавека. Трава, карысная пры адной хваробе, можа быць шкодная пры іншай. Таму перад пачаткам лячэння той ці іншай траўкай неабходна звярнуцца да лекара.



Вось, напрыклад, кісліца звычайная. А ў народзе званая зайкавай капустай, зайкавым шчаўем і ды яшчэ інакш. Вельмі папулярная па ўсёй Беларусі і ў нас. Гэта невялічкая расліна з лісцікамі, якія нагадваюць канюшынку. Расце пераважна ў вільготных месцах. Калі пажаваць лісток — па смаку вельмі нагадвае шчаўе.

У народнай медыцыне кісліца выкарыстоўваецца ў хваробах страўніка, вантробы, нырак і мочавага пухіра. Ужываюць гэтую раслінку і для спынення гнільных працэсаў у роце, нават сок са свежай раслінкі п'юць пры раку страўніка ці вуснаў, а таксама супраць атэрасклерозу. Лісткі добра есці пры недахопе вітаміна С, а таксама прыкладваць да ран, каб хутчэй гаіліся.

А ў нашай кухні прымяняць кісліцу можна замест воцату, каб дадаць кіслаты стравам. Можна таксама дадаваць яе і ў кампоты.

(яч)

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 396131, Воронежская обл., Панинский район, с. Дмитриевка, ул. Советская, 17. Суходоевой Оксане (8 клас).

— * —

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае, льнозавод, скрынка 74. Craновіч Каця (5 клас).

— * —

БССР, 225710, Брэсцкая вобласць, г. Пінск, вул. Савецкая, 23, кв. 32. Барбарыч Іра (5 клас).



Удзельніца беларускага дэкламатарскага конкурсу для школьнікаў Эва Сапяжынская з Курашава. Фота Я. Чэрнякевіч.

## ЛЯНОТА

(Працяг са стар. 9)

сказала Лянота. — Усё свет. Нават крамы і машыны. Я так думаю.

Алік пачаў здагадвацца, што здарылася няшчасце: дурная Лянота не зразумела яго і напусціла дрымоту на ўвесь свет.

— Што ж цяпер будзе? — напалохаўся Алік.

— Нічога!

— Як гэта нічога?

— А так, — адказала Лянота. — Мне падабаецца, што ўвесь свет нічога не робіць.

— Табе падабаецца. А мне што рабіць?

— Спі, гуляй.

— А есці мне трэба ці не?

— Еш, хто табе не дае.

— Што есці? — горка ўсміхнуўся галодны Алік. — Ні снедання, ні абеду маці не нарыхтавала. Сам я гатаваць не ўмею. Крамы зачынены. Зрабі, Лянота, так, каб усё зноў было, як раней. Я не хачу караць ні бацькоў, ні свету.

— Ха-ха-ха! — зарагатала Лянота. — Калі я зніму са свету свае чары, то мне сумна будзе жыць. Зараз — усе мае сябры. А тады нават ты ад мяне адрачэшся. Ці ж няпраўда?

— Вядома, адракуся. Цяпер я бачу, што дарэмна тваім сябрам стаў, — пакаяўся Алік.

— Ну вось. А ты хочаш, каб я чары зняла. Не, дараженькі, такога глупства я не зраблю.

— Дык я прымушу цябе! — ускрыкнуў Алік.

— Паспрабуй!

Алік успомніў, як скавытала Лянота ў пустым закутку іх дома. Відаць, ёй там не соладка жылося. „Выкіну яе зноў туды, — рашыў Алік. — Нябось паваляецца пад плотам, дык памякчэе". І ён, доўга не думаючы, занёс Ляноту ў закутак і шпурнуў пад плот.

І толькі ён зрабіў гэта, як бачыць — усе вокны іхняга дома засвяціліся. На вуліцах зашумелі машыны.

VI

Убег Алік у сваю хату, бачыць — у пакоях святло гарыць, маці на кухні бульбу чысціць. Дрымоты ў яе як і не было.

— Дзе ты гуляеш? — пытаецца яна ў Аліка. — Ты ж, мусіць, есці хочаш?

— Ага, — адказаў Алік, глытаючы сліну.

— Пачакай, зараз бульбянога супу навару.

— А я, — сказаў Алік, — па хлеб збегаю.

Бацька прыадчыніў дзверы з пакоя, сказаў да Аліка:

— Купі там у кіёску мне свежую газету.

— Добра, — адказаў Алік і бягом кінуўся ў краму.

Бацька ўсміхнуўся:

— Нешта з Алікам сёння сталася. Сам ахвотна па хлеб пабег.

— Расце хлопец, — сказала маці, — разумнее.

— І праўда, — згадзіўся бацька. — Але нешта мне вельмі ж есці захацелася. Давай памагу бульбу чысціць.

Пакуль Алік вярнуўся з хлебам, на газавай пліце ўжо булькатала немаленькая каструля свежага бульбянога супу, а ў алюмініевай патэльні з шумам смажылася цыбуля на масле. Ад яе ішоў такі пах, што Алік ледзь не расчыхаўся.

— Давай, мама, — сказаў ён, — памагу пасуду мыць, стол накрываць. Хутчэй будзе.

— Добра, сынок. Памагай.

І яны ўдвайх пачалі рыхтавацца да вячэры.

А пра сваю сястрыцу Ляноту Алік так і не сказаў бацькам ні слова.

## АНЧАР

(Працяг са стар. 9)

далей ад елкі, дзе схаваў бутэрброд.

Анчар спачатку ішоў за ім паслухмяна, а перад горкай сеў і, як той ні клікаў яго, не крануўся з месца.

Паўлік узабраўся на горку, прысеў каля вогнішча. Думаў: пасядзіць крыху, а потым з'едзе ў ельнік і з'есць нарэшце свой бутэрброд.

Не заўважыў, як некуды схаваўся Анчар. Неўзабаве ў ельніку пачуўся залівісты радасны брэх.

— Анчар некага ловіць, — сказала Юлька.

— Можа, вавёрчыны запасы шукае, — выказаў здагадку Толік. — Вось каб арэхаў знайшоў!

Паўлік западозрыў нядобрае: ці не да яго схованкі падабраўся Анчар? Шаснуў з горкі, уляцеў у ельнік і хутчэй пад елку, дзе хаваў бутэрброд. Лыжнай палкай капнуў снег — бутэрброда не было. Пачаў снег нагой разграбаць — няма! Вось і падсілкаваўся! Вось і з'еў хлеб з каўбасой і маслам!..

Тут Паўліка паклікалі сябры. Ён вярнуўся да вогнішча, а там Юлька дзяліла на пяць частак Паўлікаў бутэрброд.

— Ура! — крыкнуў Сцёпа. — Слава Анчару! Знайшоў нечую схованку ў лесе і нам прынёс. Ну і малайчына!

Як і меркаваў Паўлік, кожнаму дасталася па малюсенькаму кавалачку. І такая ж самая частка — Анчару. Паўлік укінуў сваю долю ў рот і з'еў, не адчуўшы нават смаку той каўбасы.

Хутчэй за ўсіх праглынуў свой бутэрброд Анчар. Гам — і ўсё. Потым падышоў да Паўліка, тыцнуўся ў ногі і пачаў лашчыцца, вінавата глядзець яму ў вочы, не то просячы прабачэння, не то дзякуючы яму за гэты пачастунак.

Ну і сабачка! Ну і Анчар!



АДГАДАНКА

Замалюй палі, азначаныя кропачкай. Што выйшла?



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка".

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Алесь Якімовіч

## ЛЯНОТА

### КАЗКА

**Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.**

V

Можа б Алік плакаў і да гэтага часу, каб не ўспомніў пра сваю сястрыцу Лянотy. Заняты розным іншым клопатам, ён пра яе зусім забыўся.

„Ці не дапаможа яна мне?“ — падумаў Алік.

Выняў ён з партфеля скрыначку і паклікаў:

— Лянота, Лянота!

— Чаго хочаш ад мяне, мой брат?

— Ці ты не ведаеш, чаму не было сёння нікога ў школе?

— Ведаю. Ты сам так захацеў.

— Як гэта — я? Што ты вярзеш глупствы? — узлаваўся Алік.

— Ніякія не глупствы! — пакрыўдзілася Лянота. — Скардзіўся ж ты мне на ўвесь свет?

— Ага, — успомніў Алік, — скардзіўся.

— А што такое свет?

— Свет... — Алік запнуўся. — Ну, гэта так гаворыцца. Прыказка такая: яму свету мала. Або: свет няміл... А бацькі мае, а школа — хіба гэта свет?

— Вядома, свет! — цвёрда

(Працяг на стар. 10)



Сёстры Каралінка і Агнешка з Гайнаўкі. Фота Л. Пільскага.

Вершы Віктара Шведа

### МАТКА КУПІЛА КУРАНЯТКІ

З інкубатара дахаты,
У старой каструлі,
Жоўценькія куранятаы
Прынясла матуля.

— Як зваць будзем іх вялікіх,
З грэбенем чырвоным?
Адказала Вераніка:
— Будзем зваць булёнам.

### БЯЗДОМНЫ САБАКА

Сынок маленькі горка плакаў,
Калі катэгарычна тата
Яму бяздомнага сабаку
Не дазваляў узяць дахаты.

— Сабака мой, — азваўся Коля, —
Удзячны будзе за апеку,
І не пакрыўдзіць ён ніколі,
У параўнанні з чалавекам.

### КОНЕЙ МАЛЯВАЦЬ НЕ ТРЭБА

Апынуўся ў вёсачцы мастак.
Ён да селяніна на загоне
Адазваўся нечакана так:
— Буду маляваць я вашых коней.

Здзіўлены надзвычай селянін,
Што араў засохлую ўжо глебу,
Адказаў: — Прыгожыя ж яны,
Маляваць іх, думаю, не трэба.

### ГУЛЬНЯ Ў ДОЖДЖ

Вярнулася з поля
Змучаная маці.
Мокры Валік, Коля —
Лужын шмат у хаце.

— Не будзь, мама, строгай, —
Адазваўся Валік. —
Вады ў хаце многа —
Мы ж у дождж гулялі.

### ЦІ ПРЫШЧЭПЛЕНЫ МОЙ БРАТ?

Маці з хаты хлапчукоў
Выгнала на панадворак.
Ды і там яны ізноў
Задзірацца сталі скора.

Вось прыбег малы Ігнат
Да матулі з плачам, жалем:
— Ці прышчэплены мой брат?
Укусіў мяне за палец.

### ГУЛЬНЯ Ў МАГАЗІН

Вясковыя дзяўчаты,
Святлана, Аня, Рая,
На лавачцы ля хаты
У магазін гуляюць.

— Ці сённяшні хлеб будзе
У нашым магазіне?
— Не трэба тут марудзіць,
Ён заўтра быць павінен!

### БРЫДКІЯ СЛОВЫ

— Навучыўся, сынок, дзе ты
Брыдкіх слоў багата?
Міліцыянер за гэта
Возьме цябе з хаты.

Як прыйшлі ў прадшкола мама,
Адазваўся Ваня:
— Міліцыянер таксама
Возьме нашу паню.

Васіль Хомчанка

## АНЧАР

Паўлік дамовіўся з сябрамі паехаць за горад пакатацца на лыжах. Сабралася іх чацвёра: ён, Сцёпа, Юля і Толік. Ды яшчэ Анчар — чорны калматы Юлін сабачка. Спачатку яны ехалі аўтобусам, потым за горадам сталі на лыжы. Анчар то ўперад забяжыць, то ззаду пляцецца. Чорны, як вугаль, на белым снезе. І чаму яго Анчар назвалі? Анчар — гэта ж страшнае дрэва, у лісцях якога ёсць атрутны сок. А сабачка зусім не страшны. Звычайны дварняк, і хвост у яго, як у кожнага дварняка, абаранкам загнуты.

Падышлі да лесу. На горцы, каля сасняку, распалілі вогнішча, адпачылі, потым пачалі катацца з горкі. Спускацца добра — ляціш стралой. А вось назад угору ўспаўзаць надакучыла. І ўсе неўзабаве зноў прыселі каля агню.

Юля пашкадавала:

— Як жа гэта мы не здагадаліся есці ўзяць?

— Я магу суткі без яды цярпець, і нічога, — сказаў Сцёпа. Вядома, ён схлусіў, бо якраз любіў добра паесці.

— А ў мяне семкі павінны быць, — успомніў Толік і пачаў мацаць у кішэнях. Знайшоў жменьку гарбузікаў і падзяліў на чатырох. Сябры з'елі іх, але толькі яшчэ больш раздражнілі апетыт.

Як толькі загаварылі пра ежу, Анчар пачаў абнюхваць Паўліка і тыцкацца мордай у кішэню. Калі Паўлік выходзіў з дому, бабуля, хоць хлопчык і не хацеў, сунула яму ў кішэню бутэрброд. І вось цяпер Паўлік сядзеў і думаў, што рабіць. Калі сказка пра бутэрброд сябрам, трэба будзе падзяліць яго на ўсіх. І тады кожнаму дастанецца па нейкай крошцы. Ніхто навват чарвяка не заморыць. Паўлік парашыў не дзяліць бутэрброд, а з'есці яго самому. Хоць адзін будзе сыты.

Паўлік з'ехаў з горкі, зайшоў у ельнік і толькі хацеў дастаць з кішэні бутэрброд, як хтосьці лізнуў яму руку.

Гэта быў Анчар. Ён прыбег следам за ім.

— Ану прэч! — замахнуўся ён на сабаку. І не стаў даставаць бутэрброд пры ім.

Зайшоў за другую елку. Анчар не адставаў і ўсё стараўся панюхаць яго кішэню.

— Што ты нюхаеш? Няма там нічога.

— Гаў! Гаў! — забрахаў Анчар. На яго сабачай мове гэта азначала: не хлусі, я чую — каўбасой пахне.

Паўлік пакруціўся ў ельніку і нарэшце схаваўся ад сабакі. Пастаяў, пачакаў. Анчара не было.

„Вось і добра, — падумаў ён, — цяпер падсілкуюся“.

Прысеў на пень, дастаў пакет з бутэрбродам. І рантам за спіной: „Гаў! Гаў!“ — і перад хлопчыкам стаў на дыбкі Анчар. „Ну што, — гаварылі яго хітрыя вочы, — цяпер хавацца не станеш?“.

Паўлік прагнаў ад сябе сабаку і, як толькі той адбег, схаваў бутэрброд у снег пад елкай. Адышоў ад месца схованкі, паклікаў Анчара. Той радасна пабег, а Паўлік падставіў яму пустую кішэню — на, глядзі, пустая.

— З'еў, — сказаў ён, — пакуль ты бегаў. Зразумеў? Ты, Анчар, нахабны, а я хітры.

Сабака пакрыўджана павіляў хвастом, зірнуў на хлопчыка недаверліва...

Паўлік свіснуў яму і падаўся з ельніку. Хацеў адвесці сабаку

(Працяг на стар. 10)

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) займаецца мастацкім чытаннем, 7) беларускі буквар, 9) вароты, 11) ніва, але не газета і не камбайн, 13) упакоўка, напрыклад, запалак, 15) з рухомай гарматняй вежай, 17) прыбор у машыне для змены яе дзеяння, 20) чырвоны — на боршч, белы — на корм, жоўты — на цукар, 21) далёка ад Крыма, 23) з адным хобатам і двума біўнямі, 24) з пысай, 25) аброжак.

**Уніз:** 1) выбраны ўпаўнаважаны пасланец, 2) на яго сценках сажа, 3) найважнейшая міжнародная арганізацыя на свеце, 4) на галаве ў араба, 5) крыкні, а яно адгукнецца, 6) жаночае імя — паліндром, 8) з яго робяць сыр, 10) святое месца мусульманаў, 12) з яе можа быць пажар, 14) імя Карпюка — гродзенскага пісьменніка або дырэктара бельскага беларускага ліцэя, 16) калі не зялёны, дык насеннік, 18) у кіно і ў тэлевізары, 19) на ім гандлююць, 22) сядзіць ціха пад мятлой.

„ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 50:**

**Упоперак:** карагод, змагар, могілкі, восень, селішча, картка, рукзак, ламанне, Барскі, чарніцы, Гайдук, аплатка.

**Уніз:** камісар, рагалік, галушка, дзівак, баксёр, часнок, адмірал, танкіст, алешына, уладар, засада, клічка.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Ірына Лукша з Семяноўкі і Алег Урбановіч з Ліды.

# НІЎКА

ПЕРАБУДОВА 2 серыя

Мал. Эвжэна Давіда („Дзікабраз")

## МАЛЕНЬКАЕ „АЛЕ"

Аддзел у нас называецца „Аптымальнае выкарыстанне рабочага часу". Навукова абгрунтаваныя парады даём, як працаваць трэба. Прыйшоў, пасядзеў, пакурыў, пабалбатаў. Кожную гадзіну глыбокі ўдых. Кожны дзень вытворчая гімнастыка. Як ва ўсіх працоўных, занятых цяжкай разумовай працай.

У канцы месяца падлічыў эканамічны эфект — аказваецца, вялікая карысць народнай гаспадарцы. Аж гонар бярэ. Да таго ж ніякіх камандзіровак. Толькі раз у год на бульбу ад гіпадынамікі і два на дружыну. Гэта калі дванаццаць дзяўчат плюс адзін мужчына. І так дзесяць гадоў ні канфліктаў, ні давай-давай, ні цягнем-падцягнем. Ціха, як у спальным вагоне. Толькі спяць седзячы. Увогуле санаторый-прафілакторый.

Адно дрэнна: ніякіх надбавак за сон.

А патрэбы растуць. Адрэз два на тры, дыван тры на чатыры, гараж пяць на шэсць, дача сем на восем — усё трэба! Усё хочацца!

Можна, вядома, работу памяняць. Вунь у цэх завуць. Там і за вал, і за аўрал, і за колькасць. Але ёсць адно „але". Адно невялікае супраць. Маленькае такое, дробязь, а гаварыць страшна... Там працаваць трэба.

**Барыс Рабенькі**
(З кнігі „Кубік Рубіка")

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

**Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:**

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-2.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski i Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| **2993. Антаніна Паленік (Гайнаўка)** | — | **2000 зл.** |
| **2994. Павел Антанюк (Гайнаўка)** | — | **1000 зл.** |
| **2995. Васіль Леўчук (Гайнаўка)** | — | **1000 зл.** |
| **2996. Ян Банькоўскі (Гайнаўка)** | — | **1500 зл.** |
| **2997. Уладзімір Яноўскі (Гайнаўка)** | — | **1000 зл.** |
| **2998. Уладзімір Астапчук (Гайнаўка)** | — | **1500 зл.** |
| **2999. Сцяпан Кот (Гайнаўка)** | — | **2000 зл.** |
| **3000. Анна Іванюк (Гданьск)** | — | **1200 зл.** |
| **3001. Пятро Германюк (Аўгустаў)** | — | **10000 зл.** |
| **3002. Узносы сялян у Кааператыўным банку ў Чыжах** | — | **2600 зл.** |
| **3003. Аляксей Харкевіч (Гайнаўка)** | — | **5000 зл.** |
| **3004. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка)** | — | **5000 зл.** |
| **3005. Уладзімір Адамавіч Кісель (БССР)** | — | **25 рубл.** |
| **3006. Анатоль Цітоў (Мінск) — ахвяраваў пячатку Супрасльскага манастыра св. Васілія Вялікага (XVII/XVIII ст.).** | | |

**Дзякуем.**

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

# АФАРЫЗМЫ

Вяршыняй нянавісці з'яўляецца смерць тырана.

*

Найгоршае, калі ўласная раскоша прыкрывае галечу іншых.

*

Што ж гэта за народная ўлада, якую ненавідзіць народ.

*

Не можа быць роўнасці між людзьмі, калі адны ўсімі сіламі стараюцца ўзвышацца над другімі.

*

У хвіліны анархіі чалавек знішчае тое, што сам стварыў.

*

Нават найбольш смертаноснай зброяй нельга забіць волі народа.

*

Той, хто страляе да народа, выдае сабе смяротны прысуд.

**Віктар Швед**

## ПРАЖСКІЯ АНЕКДОТЫ

— Скажыце, як трапіць на Юнгаманавую плошчу?
— Прабачце, але я кепска чую, у мяне вада ў вушах.
— Вяртаецеся з басейна?
— Не, з Вацлаўскай плошчы.

*

Вучань прынёс са школы двойку. Бацька паглядзеў у вучнёўскі дзённік, распісаўся і сказаў: „Біць цябе не буду, але пашлю на Вацлаўскую плошчу".


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Пятрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ала Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"

ul. Wesołowskiego 1

15-950 Białystok, skr. poczt. 149

tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztowa na II kwartał 1990 r. upływa 20 lutego 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 1.300 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28 Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:

- prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy).
- rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach).
- prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach)

Zam. 83/90. Nakład 4.200. U-3.